Уладзімір БУТРАМЕЕЎ

# Вялікія і славутыя людзі зямлі Беларускай

4-е выданне

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2005

## Частка першая

# Беларуская зямля старажытных часоў



# Легендарныя продкі беларусаў

**АДАМ** — *паводле Бібліі і Карана, першачалавек, продак усіх людзей, якога Бог стварыў з зямнога праху.*

**ЕВА** — *жонка Адама, якую Бог стварыў з рабра Адама, першая жанчына, прамаці ўсіх людзей.*

**ЯФЕТ** — *сын біблейскага Ноя, які пасля патопу стаў продкам індаеўрапейскіх народаў — індусаў, персаў, грэкаў, славян, германцаў і кельтаў.*

**СЛАВЕН** — *паводле легенд, продак славянскіх народаў.*

**РАДЗІМ** — *паводле «Аповесці мінулых гадоў», продак радзімічаў, якіх ён прывёў на пасяленне на раку Сож.*

**ДРЫГАВІТ** — *на думку гісторыка М.Ермаловіча, продак дрыгавічоў.*

**КРЫВА** — *на думку гісторыка М.Ермаловіча, продак крывічоў.*

Кожны чалавек хоча ведаць, адкуль і калі з'явіўся яго народ, як жылі далёкія продкі і хто з іх праславіўся подзвігамі і вялікімі справамі. Гісторыя беларусаў, як і іншых народаў, пачынаецца ў далёкім мінулым, і вучоныя не могуць дакладна растлумачыць, як усё было на самым пачатку. Але захаваліся легенды і паданні, якія апавядаюць пра гэта. Яны іншы раз падобныя на казкі, але, па-першае, нават у казцы ёсць нейкая кропля праўды, а па-другое, лепш мець адзінае ўяўленне, хай сабе і напалову казачнае, чым блытацца ў недакладных звестках. Таму, каб вызначыць месца беларусаў сярод іншых народаў свету, мы і звернемся да паданняў і легендаў, якіх шмат у адной з самых старажытных кніг свету — Бібліі, у летапісах, у старых хроніках.

Паводле Бібліі, Бог стварыў неба і зямлю, расліны, жывёл і першых людзей — Адама і Еву. Адама і Еву мы лічым найстаражытнейшымі продкамі ўсіх людзей, у тым ліку і беларусаў. Гэта прапрапрапродкі.

Адам і Ева жылі ў раі, але яны парушылі загад Бога, і ён выгнаў іх на зямлю. У Адама і Евы нарадзіліся два сыны — Каін і Авель. Каін быў земляробам. Авель пасвіў жывёлу. З зайздрасці Каін забіў Авеля. Так людзі зрабілі грэх — братазабойства.

Калі людзей стала шмат, яны натварылі столькі грахоў, што Бог затапіў зямлю вадой, каб знішчыць іх. Толькі аднаму чалавеку, які не грашыў, Бог загадаў пабудаваць каўчэг і ратавацца ад патопу. Звалі гэтага чалавека Ной. У каўчэг ён узяў па пары ўсіх жывёл і сем'і сваіх сыноў — Хама, Сіма і Яфета. Ад іх пайшоў пасля патопу род людскі на зямлі.

Ад Хама пайшлі егіпцяне. Самыя вядомыя з іх — фараон Хеопс, які пабудаваў найвялікшую ў свеце піра-

міду, і прыгажуня Неферціці. Паводле легенды, ад Хама паходзяць таксама ўсе жыхары Афрыкі і старажытныя фінікійцы, якія прыдумалі першы алфавіт. Фінікійцам быў і славуты палкаводзец Ганібал.

Ад Сіма пайшлі яўрэі, вавіланяне і арабы. Яўрэі захавалі легенды і паданні старажытных народаў і склалі святое пісанне — Біблію. Самыя славутыя сярод іх былі цар Давід, мудры Саламон і Ісус Хрыстос, пачынальнік хрысціянскай рэлігіі. Вавіланяне праславіліся самым вялікім горадам таго часу — Вавілонам, а арабы — прарокам Мухамедам, пачынальнікам мусульманскай рэлігіі — іслама.

Ад сыноў Яфета пайшлі народы, што жывуць ад Індыі да Еўропы і размаўляюць на індаеўрапейскіх мовах. Гэта і індусы, і персы, і грэкі, і германцы, і кельты, і славяне. Сярод індусаў жыў Буда, стваральнік яшчэ адной сусветнай рэлігіі — будызму. Персы заваявалі мноства краін ад Індыі да Грэцыі. Грэкі вядомыя імёнамі вялікіх філосафаў Сакрата, Платона, Арыстоцеля, а яшчэ больш — імем славутага паэта Гамера. Блізкія сваякі грэкаў македонцы на чале з Аляксандрам Македонскім заваявалі амаль увесь свет. А нашчадкі далёкіх сваякоў грэкаў — траянцы заснавалі ў Італіі горад Рым, які пасля стаў цэнтрам сусветнай імперыі. Вялікія рымляне — палкаводзец Юлій Цэзар, аратар Цыцэрон. Ад кельтаў (іх яшчэ называюць гагамі) і германцаў паходзяць сучасныя французы, немцы, англічане, аўстрыйцы, сярод якіх таксама было шмат славутых людзей.

Аднаго з сыноў Яфета звалі Славенам. Ад яго пайшлі славяне. Таму біблейскі Яфет — наш агульнаеўрапейскі прапродак, а Славен — агульнаславянскі прапродак. Славен пасяліўся ў лясах, там дзе цяклі рэкі Лаба

(Эльба), Вісла і Дунай. Славяне былі высокага росту, стройныя, з русымі валасамі. Сярод іншых народаў яны вылучаліся сілай, вынослівасцю. Калі ў баі ў першых шэрагах стаяць славяне, то яны зломяць любога праціўніка. Змагаліся яны ў пешым страі мячом і дзідай, у простых кашулях, а то і напаўголыя, без кальчуг і даспехаў. Трапіўшы ў палон, цярпліва зносілі любыя пакуты і катаванні і паміралі мужна, не просячы літасці. З гэтай прычыны славян часта ўцягвалі ў войны як саюзнікаў. Да нас дайшлі словы аднаго з іхніх ваенных правадыроў Лаўрытаса: «Ніхто не зможа нас, пакуль ёсць на свеце вайна і мячы», — горда сказаў ён.

Але ўвогуле славяне не любілі ваяваць. Яны пасвілі на лугах свае статкі, карчавалі лес, аралі зямлю. Жылі славяне ў драўляных дамах, елі простую ежу: проса, грэчку, мёд і малако. Усе ведалі іхнюю гасціннасць: выходзячы з дому, славянін не зачыняў дзверы, а на стале пакідаў ежу — раптам завітае які-небудзь госць!

Славянскія жанчыны насілі доўгае адзенне. Яны славіліся прыгажосцю і адданасцю. Нашы продкі пакланяліся Богу маланкі і неба Перуну, Богу сонца Даждж-богу, духам лесу, рэк і балот. Памерлых спальвалі на пахавальных вогнішчах. У гонар славутых правадыроў і герояў насыпалі курганы. Славяне любілі скакаць, спяваць песні, слухаць гуслі і паданні аб мінулых часах. Але найбольш яны любілі волю.

У некаторых славянскіх плямёнах усё ж выбіралі вярхоўную ўладу. Той, каго пасля доўгіх абмеркаванняў і парадаў старых дамаўляліся абраць правадыром, павінны быў з'явіцца перад народам босы і ў лахманах. На троне ўзвышаўся просты хлебароб, а будучы валадар становіўся побач з ім і кляўся перад усімі берагчы веру продкаў, абараняць сірот і захоўваць справядлівасць.

Пасля гэтага хлебароб саступаў яму трон, а народ прысягаў на паслушэнства. Калі ж ён парушаў клятву, яго адразу ж праганялі. Нават палонных славяне не ператваралі назаўсёды ў рабоў, як гэта рабілі іншыя, а прымушалі адрабіць колькі гадоў і адпускалі дамоў або пераконвалі заставацца жыць у іх свабоднымі і як роўныя з роўнымі. Славяне так шанавалі волю, што ім было балюча пазбаўляць яе нават сваіх ворагаў.

Такія былі легендарныя дзеці і ўнукі Славена.

На той час усе народы, якія жылі на беразе Міжземнага мора (найстаражытнейшага Егіпта і старажытнай Грэцыі, будучай Францыі і іншыя), уваходзілі ў Вялікую Рымскую імперыю. Рым ўжо не меў моцы ўтрымліваць уладу над імі. І тады маладыя суседзі пачалі нападаць на Рымскую імперыю. Разбураліся старыя дзяржавы. Узнікалі новыя. Тут жа разбураліся новыя і ўзнікалі найноўшыя. Іншыя гінулі, не паспеўшы ўзнікнуць. Раптам аднекуль з'яўляліся незлічоныя народы. Раптам бясследна знікалі. Усе гэтыя падзеі атрымалі ў гісторыі назву «вялікае перасяленне народаў».

Жыць у такі час было вельмі цяжка. Асабліва славянам, якія ад прыроды былі спакойныя і лагодныя. Звычайна славяне не працівіліся, калі іншыя плямёны з розных бакоў прыходзілі ў іхнія ўладанні. Яны лічылі, што месца хопіць усім, зямлі ў славян было шмат. Але потым узнікалі спрэчкі і сваркі. І славяне паступова перасяляліся далей ад неспакойных суседзяў. Аднойчы славуты князь Бурывой, прапраўнук Славена, сабраў славян і павёў іх на ўсход. Там раскінуліся маланаселеныя землі з мноствам рэк, лугоў і густых лясоў. Так славяне паступова рассяліліся ад Чорнага да Балтыйскага мора. Тыя плямёны, што аселі ў лясах, па словах летапісцаў, пачалі называцца драўлянамі (ад

слова «дрэва»), тыя, што на мяжы са стэпамі, — палянамі (ад слова «поле»), а тыя, што апынуліся на поўнач ад іх, — севяранамі. Было шмат і іншых плямён, якія атрымалі розныя назвы.

Плямёны, што аселі на тэрыторыі Беларусі, атрымалі назвы ад сваіх старэйшын. На рацэ Сож спынілася племя, якое прывялі два браты — Радзім і Вятка. Вятка пайшоў са сваім родам на раку Ака. Радзім застаўся на Сожы. Радзімічы жылі на гарадзішчах. Гарадзішчы засцерагалі іх ад нападаў суседзяў і стэпавых качэўнікаў, якія часта ўчынялі набегі на славян. Радзімічы займаліся паляваннем і рыбалоўствам. Іх любімым упрыгожаннем былі сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы. Пазней на зямлі радзімічаў узнікнуць гарады Гомель, Чачэрск, Прапошаск (сучасны Слаўгарад).

Легендарны Дрыгавіт прывёў на раку Прыпяць другое славянскае племя. Тут было шмат балот. Па-старaславянску балота называецца дрыгва. Таму многія вучоныя лічылі, што племя атрымала сваю назву — дрыгавічы — ад мясцовасці, на якой пасялілася. Дрыгавічы занялі значную частку Беларусі ад Прыпяці да Дняпра, Нёмана, Буга і Дзвіны. Апроч палявання і рыбалоўства яны займаліся і земляробствам: высякалі лясы, разворвалі зямлю і сеялі збожжа. Некаторыя пасяленні дрыгавічоў станавіліся гарадкамі, у якіх жылі рамеснікі, купцы вялі гандаль. Так узніклі Пінск, Брэст, Клецк, Слуцк, Капыль, Рагачоў, Тураў. Сёння на зямлі дрыгавічоў стаяць і Гродна, і Менск.

Апынулася на Беларусі і частка племя, якое сталі называць крывічамі, па імю свайго правадыра Крыва. Гэта было адно з самых шматлікіх славянскіх плямён. Крывічы пасяліліся ад Нёмана да Дзвіны і Дняпра. Іхнія супляменнікі дайшлі да Чудскага возера і да Волгі.

Крывічы займаліся земляробствам і рамёствамі. Іх жанчыны насілі пазалочаныя шкляныя пацеркі. Крывічы ўжо аб'ядноўваліся ў ваенныя саюзы і выбіралі князёў-правадыроў.

Цяпер азірнёмся назад. Нашыя агульначалавечыя прапродкі — Адам і Ева, агульнаеўрапейскі прапродак — біблейскі Яфет, агульнаславянскі прапродак — легендарны Славен, а нашыя непасрэдныя легендарныя продкі — Радзім, Дрыгавіт і Крыва.

Зразумела, усё гэта легенды. Імя Радзіма захавалася ў летапісах, а імёны Дрыгавіта і Крывы — толькі ў назвах плямён. Але ж легенды складаюцца недарэмна. Услед за імёнамі Радзіма, Дрыгавіта і Крывы ў гісторыі з'яўляецца імя першага полацкага князя Рагвалода і яго дачкі Рагнеды, а потым яе сыноў — Ізяслава і Яраслава Мудрага, які княжыў у Кіеве і даў усходнім славянам першыя законы. А потым ідзе імя Ефрасінні Полацкай. Імёны заснавальнікаў Вялікага княства Міндоўга і Войшалка і тых, хто працягваў іх справу: Гедзіміна і Альгерда, Ягайлы і Вітаўта, імёны Скарыны, народных песняроў Коласа і Купалы.

А пачыналася ўсё з легенды, з Радзіма, Дрыгавіта і Крывы. Значыць, недарэмна складаюцца легенды! З веку ў век рымляне перадавалі паданні пра сваіх легендарных продкаў Энея і Ромула. Старажытныя грэкі беражліва захоўвалі імя легендарнага Эліна. І краіна ў яго гонар узнёсла называлася Эладай. І нам трэба ведаць, захоўваць і шанаваць імёны Радзім, Дрыгавіт і Крыва, што стаяць у пачатку нашага народа, нашай гісторыі.

# Першы князь Полацкай зямлі Рагвалод і яго дачка Рагнеда

**РАГВАЛОД** — *першы гістарычна вядомы полацкі князь, бацька Рагнеды Рагвалодаўны. Год нараджэння невядомы. Памёр у 980 г.*

**РАГНЕДА РАГВАЛОДАЎНА** — *полацкая князёўна, дачка князя Рагвалода, жонка вялікага князя Уладзіміра Святаславіча. Год нараджэння невядомы. Памерла ў 1000 г.*

**УЛАДЗІМІР СВЯТАСЛАВІЧ** — *вялікі кіеўскі князь, муж Рагнеды Рагвалодаўны. Год нараджэння невядомы. Памёр у 1015 г.*

Крывічы, што пасяліліся на берагах Заходняй Дзвіны, называліся палачанамі. Гэта назва пайшла ад невялікай рэчкі Палаты, што ўпадала ў Дзвіну. На ёй крывічы пабудавалі свой галоўны горад, і ён таксама атрымаў імя ад гэтай рэчкі — яго назвалі Полацк.

Першым полацкім князем, пра якога захаваліся летапісныя звесткі, і быў Рагвалод.

На той час на поўнач ад Полацка ўжо існаваў славянскі горад Ноўгарад. Ноўгарад значыць Новы Горад — так яго назвалі ў адрозненне ад старога легендарнага Славянска, пабудаванага продкам славян Славенам. А на поўдзень ад Полацка на Дняпры ляжаў старажытны славянскі горад Кіеў. Паводле легенды, яго пабудаваў князь Кій, таму горад і назвалі Кіевам.

За Ноўгарадам, за сучасным Балтыйскім морам жылі розныя германскія плямёны. Найбольш ваяўнічыя людзі з гэтых плямён збіраліся ў дружыны і на лодках плылі ў іншыя краіны, рабавалі гарады, прымушалі плаціць даніну. Іх называлі вікінгамі, а на старажытнай славянскай мове — варагамі. Вікінгі дабіраліся і да Англіі, і да Францыі, і нават да Італіі.

А на поўдзень ад Кіева, за морам, якое цяпер называецца Чорным, знаходзіўся горад Канстанцінопаль, сталіца ўсходняй часткі Рымскай імперыі. У адрозненне ад заходняй часткі і самога Рыма ўсходняя з Канстанцінопалем здолела абараніцца ад набегаў маладых ваяўнічых народаў. Яна атрымала назву Візантыя — ад старажытнагрэчаскага горада Візантый, на месцы якога і ўзнік Канстанцінопаль. Насельніцтва Візантыі ў асноўным складалася з нашчадкаў старажытных грэкаў. Сам Канстанцінопаль славяне называлі Царградам, царом гарадоў, бо ён быў самы вялікі, славуты і багаты горад у свеце ў тыя часы. Купцы і варагі з далёкай поў-

начы часта плавалі да Царграда. Купцы гандляваць, варагі рабаваць. Плылі на лодках па рэках, а дзе рэк не было, валачылі лодкі па зямлі. Шлях, якім яны дабіраліся да Царграда-Канстацінопаля называўся шляхам «з варагаў у грэкі». Ён ішоў па рэках Волхаў, Заходняя Дзвіна, Дняпро. Полацк якраз знаходзіўся на гэтым шляху, што было і выгадна, і небяспечна. Выгадна, бо спрыяла гандлю, а небяспечна, бо варагі маглі захапіць горад.

Таму полацкі князь Рагвалод меў моцную дружыну, якая абараняла Полацк. З яе дапамогай Рагвалод падпарадкаваў сабе ўсе суседнія землі — у тым ліку і тыя, на якіх жылі дрыгавічы. Паводле легенды, ён паслаў да дрыгавічоў свайго брата Тура. Тур заснаваў на рацэ Прыпяць горад-крэпасць Тураў і стаў першым тураўскім князем. Гэта яшчэ больш умацавала Полацкае княства. Рагвалод быў мужны і разумны кіраўнік. Ён хацеў аб'яднаць плямёны, што жылі па Дзвіне, Дняпры і Прыпяці. Пры Рагвалодзе Полацкае княства стала адным з самых моцных сярод славянскіх княстваў, а Полацк — адным са знакамітых гарадоў таго часу.

Яшчэ да таго, як у Полацку пачаў княжыць Рагвалод, славяне, што жылі ў Ноўгарадзе, запрасілі да сябе княжыць аднаго з правадыроў варагаў — Рурыка. Ад яго пайшла дынастыя князёў, што княжылі ў Кіеве, бо наступны князь, сваяк Рурыка Алег захапіў Кіеў. Гэты князь праславіўся сваім паходам на Царград. Алег вярнуўся з паходу з вялікай данінай, і яму далі празванне Мудры — па-стараславянску Вешчы (ад слова «ведаць»). Алег выхоўваў малалетняга сына Рурыка — Ігара. І калі той стаў дарослым, ажаніў яго з князёўнай Вольгай. Ігар княжыў нядоўга — яго забілі, калі збіраў даніну з аднаго славянскага племя — драўлян. Княгіня Вольга жорстка адпомсціла драўлянам — спаліла іх га-

лоўны горад. Сын Вольгі і Ігара — князь Святаслаў — вельмі многа ваяваў. Ён перамог многіх ворагаў, але сам хацеў жыць не ў Кіеве, а ў Балгарыі, дзе захапіў шмат гарадоў. Вольга не дазваляла яму. Калі маці памерла, Святаслаў са сваёй дружынай зноў пайшоў у Балгарыю. На гэты раз яму не пашанцавала, і, вяртаючыся ў Кіеў, ён загінуў у бойцы з печанегамі-качэўнікамі, што часта нападалі на Кіеў.

Калі Святаслаў ад'язджаў з Кіева, ён пакінуў замест сябе княжыць трох сыноў. Старэйшы — Яраполк — заняў прастол у Кіеве. Сярэдні — Алег — стаў княжыць у зямлі драўлян. Малодшаму — Уладзіміру — не дасталося княжання, бо яго маці не была князёўнай. Яе звалі Малуша, і яна служыла ключніцай у княгіні Вольгі. Таму Уладзіміра лічылі сынам рабыні. Брат Малушы — дружыннік Дабрыня — параіў наўгародцам, якія на той час засталіся без князя, запрасіць да сябе Уладзіміра. Так Уладзімір апынуўся ў Ноўгарадзе.

Хутка паміж братамі пачалася вайна за тое, каму стаць галоўным князем. Яраполк забіў Алега і рыхтаваўся да паходу на Ноўгарад. Уладзімір таксама збіраў войскі.

Полацк ляжаў на шляху абодвух братоў, што вось-вось павінны былі пачаць бойку. І Яраполк і Уладзімір хацелі перацягнуць полацкага князя на свой бок і спадзяваліся на яго дапамогу.

У Рагвалода былі два сыны і дачка. Дачку звалі Рагнеда. Слава пра яе прыгажосць дайшла і да Ноўгарада, і да Кіева. Уладзімір паслаў у Полацк сватоў. Кіеўскі Яраполк таксама хацеў узяць яе за жонку. Рагвалод не стаў прымушаць Рагнеду і дазволіў ёй самой выбраць мужа. Гордая палачанка адмовіла паслам Уладзіміра. «Не хачу разуць сына рабыні», — адказала яна ім. Па

старажытным славянскім звычаі жонка ў дзень вяселля здымала з ног мужа абутак. Атрымаўшы адказ, Уладзімір наняў варагаў і пайшоў на Полацк. Войска прыплыло на ладдзях і з усіх бакоў акружыла Полацк. Штурм цягнуўся некалькі дзён — палачане што ёсць сілы баранілі родны горад. У баі загінулі адважны Рагвалод і абодва яго сыны. Ворагі ўзабраліся на сцены, падпалілі дамы. Уладзімір і Дабрыня загадалі разбурыць Полацк дашчэнту. Большая частка жыхароў загінула, а тых, хто застаўся жывы, забралі ў палон.

Рагнеду Уладзімір сілаю прымусіў пайсці за яго. Заступіцца за яе не было каму, і ёй давялося стаць жонкай ненавіснага забойцы сваіх родных. А Уладзімір, каб яна заўсёды помніла пра паражэнне Полацка, даў ёй другое імя — Гарыслава.

Пасля разгрому Полацка Уладзімір асадзіў Кіеў. Ваявода Яраполка Блуд здрадзіў свайму князю і, ашукаўшы, завабіў Яраполка да Уладзіміра, дзе ворагі і забілі яго. Уладзімір стаў адзін княжыць у Кіеве. Рагнеда нарадзіла яму чатырох сыноў і дзвюх дачок. Старэйшымі з іх былі Ізяслаў і Яраслаў. Славяне тады пакланяліся паганскім багам. Паводле паганскіх звычаяў князь мог мець некалькі жонак. Уладзімір узяў сабе і жонку забітага Яраполка.

Візантыя, як і многія іншыя краіны, ужо мела хрысціянскую рэлігію. У 988 годзе Уладзімір пачаў хрышчэнне Русі. Цяпер ужо нельга было мець адразу некалькі жонак, хрысціянскія законы забаранялі гэта. І Уладзімір ажаніўся з сястрою візантыйскага імператара. Але пакідаць прыгажуню Рагнеду-Гарыславу ён не хацеў. Таму недалёка ад Кіева ён пабудаваў для княгіні сяло і часта наведваў яе. Аднойчы, калі Уладзімір зас-

нуў, Рагнеда хацела забіць яго. Уладзімір прачнуўся і адабраў нож.

— Бацьку майго ты забіў, зямлю маю ты захапіў, а мяне як паланянку ўзяў за жонку! — ускліінула Рагнеда. Разгневаны Уладзімір загадаў апрануць ёй самае прыгожае адзенне, у якім яна хоча памерці, сесці на ложа і чакаць смерці, а сам пайшоў па меч. Рагнеда паклікала свайго старэйшага сына Ізяслава, зусім яшчэ хлопчыка. І калі Уладзімір увайшоў, каб забіць Рагнеду, сын акліінуў яго:

— Бацька, ты тут не адзін!

Уладзімір убачыў сына, у руках якога быў аголены меч, сумеўся і не крануў Рагнеду. Ён сабраў баяраў і расказаў ім пра тое, што здарылася. Баяры параілі яму адпусціць Рагнеду з дзецьмі на радзіму — у Полацкае княства. Полацк быў разбураны, і Уладзімір загадаў пабудаваць для сваёй былой жонкі новы горад і назваў яго імем сына, які ўратаваў маці ад смерці, — Ізяслаўлем (цяпер горад Заслаўе).

Праз нейкі час Рагнеда таксама прыняла хрысціянства. Яна заснавала каля Ізяслаўля першы на ўсходнеславянскай зямлі манастыр і жыла ў ім, прыняўшы манастырскае імя Анастасія. Праз нейкі час Рагнеда-Гарыслава-Анастасія памерла. Усе гэтыя падзеі адбыліся вельмі даўно — у дзесятым стагоддзі, амаль тысячу гадоў таму назад.

Імя Рагвалода ў гісторыі нашай зямлі займае пачэснае месца. Кожны народ памятае заснавальнікаў княжацкіх і царскіх дынастый. У французаў гэта Меравінгі і Бурбоны, у аўстрыйцаў Габсбургі, у немцаў Гогенцолерны, у рускіх Рурык і Раманавы. У нас жа Рагвалод і яго дачка Рагнеда, дзеці і ўнукі якой прадоўжылі дынастыю полацкіх князёў.

# Сыны Рагнеды Ізяслаў і Яраслаў Мудры

**ІЗЯСЛАЎ УЛАДЗІМІРАВІЧ** — *полацкі князь з 988 г. Сын полацкай князёўны Рагнеды Рагвалодаўны і вялікага кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Нарадзіўся каля 978 г. Памёр у 1001 г.*

**ЯРАСЛАЎ МУДРЫ** — *вялікі кіеўскі князь з 1019 г., сын полацкай князёўны Рагнеды Рагвалодаўны і вялікага кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Нарадзіўся каля 980 г. Памёр у 1054 г.*

**БРАЧЫСЛАЎ ІЗЯСЛАВІЧ** — *полацкі князь, сын князя Ізяслава Уладзіміравіча. Год нараджэння невядомы. Памёр у 1044 г.*

Старэйшы сын Рагнеды — Ізяслаў, той самы, што выратаваў ёй жыццё, пасля смерці маці перасяліўся з Ізяслаўля ў Полацк. Горад адбудаваўся на ранейшым месцы, пры ўпадзенні Палаты ў Дзвіну. Ізяслаў адрадзіў беларускую княжацкую дынастыю свайго дзеда Рагвалода, хоць як старэйшы сын Уладзіміра меў права і на кіеўскі прастол. У летапісах пісалі пра Ізяслава, што гэта быў першы з князёў, які ўмеў чытаць і любіў кнігі. Так з самых далёкіх часоў беларуская зямля была для ўсходніх славян прытулкам кнігі і кніжнай мудрасці.

Ізяслаў пражыў нядоўга. Ён памёр праз год пасля смерці сваёй маці — Рагнеды. Полацкі прастол заняў сын Ізяслава — двухгадовы Брачыслаў. У тыя гады гарады, якія не мелі свайго князя, траплялі ў залежнасць ад чужых князёў, і таму палачане берaглі малалетняга Брачыслава. Пакуль ён памужнеў, княствам кіраваў сход баяр і гараджан — народнае веча.

Князь Уладзімір, што княжыў у Кіеве, меў дванаццаць сыноў. Іх ён пасылаў княжыць у розныя гарады. Кожны з сыноў хацеў атрымаць Кіеў. Права на гэта меў толькі старэйшы — Святаполк. Ён нарадзіўся ад жонкі Яраполка, якую Уладзімір забраў да сябе пасля таго, як забіў брата. Таму было невядома, чый Святаполк сын — Уладзіміра ці Яраполка. Старэйшым сярод сыноў Рагнеды пасля смерці Ізяслава Полацкага застаўся Яраслаў. Ён быў пасланы княжыць у Ноўгарад. Сам жа Уладзімір больш за ўсіх любіў Барыса і хацеў, каб менавіта ён заняў кіеўскі прастол.

Калі Уладзімір памёр, Святаполк загадаў забіць Барыса і яго брата Глеба. Гэта дало яму магчымасць стаць кіеўскім князем.

Святаполк разумеў, што Яраслаў як старэйшы сын Рагнеды мае правы на кіеўскі прастол і ім не пазбегнуць барацьбы.

Яраслаў ужо быў жанаты з дачкой шведскага караля Інгігердай. Ён сабраў вялікую дружыну і рушыў на поўдзень. Святаполк запрасіў на дапамогу ворагаў славян — печанегаў. Войскі сустрэліся на Дняпры. Воіны Яраслава ведалі пра злачынства Святаполка і былі гатовы змагацца супраць яго да перамогі. Яны пераправіліся цераз Дняпро і адштурхнулі ад берага ладдзі, каб не было магчымасці бегчы з поля бою. Кіяўляне не любілі Святаполка і не хацелі ваяваць за яго.

Святаполк пасля разгрому схаваўся ў цесця — польскага караля Баляслава, які згадзіўся дапамагчы яму ў барацьбе за прастол. Яраслаў не чакаў нападзення, ён паспешліва сабраў дружыну, выйшаў насустрач і пацярпеў паражэнне. Ад усяго яго войска засталося толькі чатыры воіны, з якімі ён і ўцёк у Ноўгарад. Яраслаў ужо хацеў плысці да свайго цесця — шведскага караля, але наўгародцы пасеклі ладдзі і не адпусцілі князя. Сабралася апалчэнне. Яно было гатова зноў біцца са Святаполкам, якога за яго злачынства празвалі Акаянным. Яраслаў папрасіў дапамогі ў Полацка, у Брачыслава. Малады полацкі князь даводзіўся Яраславу родным пляменнікам, бо род абодвух вёўся ад Рагвалода. Абодва яны мелі права на кіеўскі прастол — Брачыслаў як унук Уладзіміра, а Яраслаў як адзін з яго старэйшых сыноў. З гэтай нагоды яны і аб'ядналіся ў барацьбе супраць Святаполка, які ў той час пры дапамозе польскага войска захапіў Кіеў. Але, сеўшы на вялікакняжацкі прастол, Святаполк загадаў перабіць палякаў, якія перашкаджалі яму цяпер валодаць Кіевам. І калі Яраслаў і Брачыслаў пайшлі на яго, ён зноў паклікаў печанегаў. Войскі сустрэліся на тым месцы, дзе

быў забіты князь Барыс. Яраслаў і Брачыслаў разбілі Святаполка і вызвалілі Кіеў. Святаполк уцёк з поля бою, на яго напаў страх, яму здавалася, што за ім ідуць услед. І ён памёр ад гэтага страху. А Яраслаў і Брачыслаў тры гады разам займалі вялікакняжацкі прастол.

Здавалася, павінен наступіць мір, бо цяпер усе галоўныя гарады — Кіеў, Полацк і Ноўгарад — былі ў руках нашчадкаў полацкага Рагвалода — сына і ўнука Рагнеды. Але Яраслаў у хуткім часе выжыў пляменніка са сталіцы, і пакрыўджаны Брачыслаў вярнуўся ў Полацк.

Полацкае веча прыняло Брачыслава і вырашыла адпомсціць Яраславу. Так пачалася шматгадовая барацьба полацкіх і кіеўскіх князёў. Кіеў хацеў падпарадкаваць сабе Полацкае княства, а палачане са сваімі князямі абаранялі незалежнасць і заўсёды памяталі пра тое, што яны маюць права і на кіеўскі велікакняжацкі прастол.

Пасля выгнання Брачыслава з Кіева, полацкае войска на чале са сваім князем напала на Ноўгарад. Палачане штурмам узялі горад. Брачыслаў пакінуў кіраваць Ноўгарадам сваіх намеснікаў і з багатым набыткам пайшоў у Полацк. Яраслаў даражыў Ноўгарадам не менш, чым Кіевам. Даведаўшыся пра тое, што здарылася, ён кінуўся са сваёй дружынай напярэймы Брачыславу і дагнаў яго на рэчцы Судоме. Большая частка дружыны Яраслава складалася з наўгародцаў, якія ваявалі перад тым са Святаполкам. У жорсткім баі перамагло войска Яраслава. Брачыслаў пайшоў у Полацк і падрыхтаваўся да абароны. Але Яраслаў не стаў нападаць. Ён адправіў да Брачыслава паслоў з прапановай міру і ўступіў яму два гарады — Усвяты і Віцебск, якія раней падпарадкоўваліся Полацку. Брачыслаў згадзіўся. Ён заключыў з Яраславам саюз і пазней дапамагаў яму ў

многіх ваенных паходах. Яны разам хадзілі вайною на суседнія з полацкім княствам плямёны яцвягаў і літоўцаў і прымусілі іх плаціць даніну. Калі памёр Брачыслаў, Яраслаў пасля аднаго з такіх паходаў заснаваў горад Новагародак — сучасны Навагрудак. Гэты горад пазней адыграе важную ролю ў беларускай гісторыі.

Яраслаў стаў адным з самых знакамітых князёў, якія валодалі Кіевам. Сын Полацкай Рагнеды ўпершыню сярод усходніх славян увёў у сваёй дзяржаве пісаныя законы. Яны былі сабраны ў кнізе, якая атрымала назву «Руская праўда». Летапіс апавядае, што склаўшы гэты першы судзебнік, ён сказаў:

— Па гэтай грамаце жывіце, як напісана, гэтым і кіруйцеся.

Пазней законы Яраслава дапаўняліся іншымі князямі. Па іх у старажытнай Кіеўскай дзяржаве судзілі некалькі стагоддзяў. У гісторыі ўсходніх славян летапісны спісак законаў Яраслава можна параўнаць з тым каменем, на якім былі запісаны першыя ў гісторыі чалавецтва законы цара Хамурапі ў Старажытным Вавілоне, або з меднымі дошкамі законаў Старажытнага Рыма, на якія потым раўняліся законы ўсіх еўрапейскіх дзяржаў. На іх аснове заключаліся палітычныя дагаворы, перамір'і і саюзы. За сваё жыццё Яраслаў зрабіў шмат чаго, што назаўсёды ўвайшло ў гісторыю. Але самае значнае — гэта яго законы. Менавіта за іх яго празвалі Мудрым.

Яраслаў Мудры клапаціўся і пра адукацыю. Ён сам умеў чытаць і пісаць, што ў тыя часы было вялікай рэдкасцю. Пры ім у Кіеве пачалі перапісваць кнігі, ён стварыў і першае вучылішча, у якім трыста юнакоў набылі пісьменнасць, адкрыў першую на той час бібліятэку, якая месцілася ў царкве. Летапісец, апавядаючы пра

яго клопат аб кнігах, напісаў словы, якія сталі славутыя:

— Вялікую карысць маюць людзі ад кнігі. Кнігі настаўляюць і навучаюць, менавіта ад слоў кніжных маем мы мудрасць.

Пры Яраславе Мудрым быў пабудаваны і храм Святой Сафіі, які сваім багаццем і прыгажосцю сапернічаў з цэрквамі Царграда-Канстанцінопаля. Яраслаў упершыню абнёс Кіеў каменнымі сценамі са славутаю Залатою Брамаю. Пры Яраславе каля Кіева ўзвялі і першы манастыр — Пячэрскі. Такую назву ён атрымаў таму, што да Яраслава манахі жылі у пячорах, якія капалі пад узгоркамі. Пасля таго як Яраслаў адбудаваў Пячэрскі манастыр, у ім жылі многія вядомыя манахі. Гэты манастыр стаў цэнтрам праваслаўнай рэлігіі ў старажытнай Кіеўскай дзяржаве.

Да Яраслава Мудрага мітрапалітаў — галоўных свяшчэннікаў — прысылалі ў Кіеў з Царграда-Канстанцінопаля. Яраслаў упершыню сам паставіў мітрапаліта — славяніна Іларыёна. Іларыён быў адукаваным чалавекам, пісьменнікам. Ён напісаў вядомае «Слова пра закон і пра ласку божую», якое заканчвалася малітвай у гонар непераможнасці вялікага славянскага народа.

Яраслава Мудрага называлі не проста вялікім князем, а самадзержцам і нават царом. Яго параўноўвалі з візантыйскім імператарам. Пры ім пачалі вырабляць і першыя на ўсходнеславянскіх землях грошы «яраславава серабро».

Дзякуючы поспехам Яраслава Мудрага старажытная Кіеўская дзяржава стала сусветна вядомай. Адну са сваіх дачок Яраслаў аддаў за венгерскага караля, другую — за нарвежскага, а трэцюю, Ганну — за французскага. Яна пасля смерці мужа доўгі час разам з сынам кіравала Францыяй.

Сыны Яраслава пабралі сабе за жонак дачок імператара Візантыі і польскага караля.

Усё гэта сведчыць пра тое, што ў Еўропе паважалі Яраслава і лічылі за гонар парадніцца з ім.

Летапісцы апавядаюць, што памірау Яраслаў Мудры ў ясным розуме. У апошнюю хвіліну ён загадаў сабрацца ўсім сваім сынам і сказаў ім такія словы:

— Дзеці мае! Вось я пакідаю гэты свет. Любіце адзін аднаго, шануйце і бараніце. Памятайце: усе вы браты. І калі будзеце жыць у любві паміж сабою, Бог будзе за вас і вы пераможаце ўсіх ворагаў. А калі ўзненавідзіце адзін аднаго, пачняце сваркі і бойкі, то загінеце самі і загубіце зямлю бацькоў сваіх і дзядоў сваіх, што дабывалі гэтую зямлю цяжкай і вялікай працай.

А звяртаючыся да свайго старэйшага сына, Яраслаў пакінуў яму такі запавет:

— Калі хто з братоў узніме руку на брата свайго, дапамагай таму, каго крыўдзяць, а не таму, хто мацнейшы.

Яраслава пахавалі ў Сафійскай царкве, у мармуровай труне, якая захавалася да сённяшняга часу.

Звычайна, калі апавядаюць пра гісторыю беларускай зямлі, забываюць расказаць пра Яраслава Мудрага. Ён жа княжыў не ў Полацку, а ў Кіеве. Але ж быў ён сынам полацкай Рагнеды, унукам полацкага Рагвалода! І мы павінны ганарыцца, што менавіта сын Рагнеды здолеў умацаваць старажытную Кіеўскую дзяржаву, даць ёй пісаныя законы. Ганарыцца тым, што дзякуючы намаганням менавіта ўнука Рагвалода старажытная Кіеўская дзяржава набыла тую моц і слыннасць, якія далі ёй магчымасць стаць вялікай славянскай дзяржавай, агульнай гістарычнай радзімай сучасных беларусаў, украінцаў і расіян.

# Усяслаў Чарадзей

**УСЯСЛАЎ БРАЧЫСЛАВІЧ —** *полацкі князь з 1044 г., сын князя Брачыслава Ізяславіча. Год нараджэння невядомы. Памёр у 1101 г.*

Усяслаў Полацкі — адзін з самых знакамітых полацкіх князёў. Прыгадаем яго продкаў: прапрадзед Усяслава — вялікі Рагвалод, заснавальнік дынастыі полацкіх князёў, прабабка — славутая Рагнеда, яго прадзед — Ізяслаў Полацкі, той што аднавіў дынастыю Рагвалодавічаў, яго бацька — Брачыслаў Полацкі, родны пляменнік Яраслава Мудрага.

Летапісы апавядаюць, што Усяслаў нарадзіўся ў сарочцы, таму і стаў удалым воінам. Ён заняў полацкі прастол пасля смерці свайго бацькі. Калі памёр Яраслаў Мудры і да ўлады прыйшлі яго сыны, выявілася, што на кіеўскі прастол маюць больш правоў нашчадкі Ізяслава, які быў старэйшым братам памерлага.

Але Усяслаў не думаў пра тое, каб перабрацца ў Кіеў, а хацеў узвысіць і ўмацаваць Полацк, каб надаць яму большую значнасць сярод галоўных гарадоў таго часу. Ён загадаў пабудаваць у Полацку Сафійскую царкву, бо такія ўжо былі ўзведзены ў Кіеве і ў Ноўгарадзе. Полацкі князь набраў дружыну і доўгі час рыхтаваўся да барацьбы з сынамі Яраслава Мудрага.

Гэтую барацьбу ён пачаў з нападу на Пскоў. Не здолеўшы ўзяць яго, Усяслаў нечакана пайшоў на Ноўгарад. Ноўгарад не вытрымаў удару, і войскі полацкага князя захапілі яго. Сучаснікі называлі Усяслава чарадзеем. Яны лічылі, што ён мог абарачацца ў ваўка і з'яўляцца то каля сцен Ноўгарада, то каля Кіева.

«Тройчы здабываў ён перамогу, адчыніў браму Ноўгарада, разбіў славу сыноў Яраслава, скочыў воўкам на Нямігу», — пісаў аўтар у паэме «Слова аб паходзе Ігаравым» пра славутага полацкага князя.

Сыны Яраслава павялі свае дружыны супраць Усяслава. Войскі сустрэліся на рацэ Нямізе. «І была сеча жорсткая, і многія пагінулі», — чытаем мы ў летапісе. А аўтар «Слова аб паходзе Ігаравым» апавядае: «На Нямізе снапы сцелюць з галоў, малоцяць цапамі булатнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела».

Сілы сыноў Яраслава аказаліся мацнейшыя, Усяслаў адышоў да Дняпра. Тады кіеўскія князі запрасілі яго на перагаворы. «Прыйдзі да нас, не зробім табе ніякага зла», — сказалі яны, пакляліся і пацалавалі крыж.

Усяслаў паверыў клятве, пераплыў на лодцы Дняпро і прыйшоў у шацёр да сыноў Яраслава. Кіеўскія князі схапілі яго, адвезлі ў Кіеў і пасадзілі ў цямніцу.

Летапісец піша, што Бог пакараў сыноў Яраслава за гэтую здраду — наслаў на іх страшэнных качэўнікаў-полаўцаў. У бітве з кіеўскай дружынай яны ўшчэнт разбілі сыноў Яраслава, і давялося ім зачыніцца ў Кіеве.

Жыхары Кіева, абражаныя паражэннем сваіх князёў, запатрабавалі даць зброю. Яны хацелі самі прагнаць качэўнікаў, якія рабавалі наваколлі Кіева. Але князі пабаяліся ўзбройваць народ. Тады натоўп гараджан кінуўся да княжацкага палаца. Князі ўцяклі з Кіева. Кіяўляне вызвалілі Усяслава і, па словах летапісца, праславілі яго сярод княжацкага двара — абралі вялікім князем.

Сем месяцаў Усяслаў Чарадзей княжыў у Кіеве. Ён прагнаў полаўцаў, зрабіў некалькі пераможных паходаў. Упершыню пад уладай полацкага князя аказаліся славянскія землі ад Ноўгарада і Полацка да берагоў Чорнага мора і горада Тмутаракань на яго ўзбярэжжы.

Але гэта былі вельмі ненадзейныя і нетрывалыя ўладанні. Усяслаў добра разумеў гэта. І калі старэйшы сын Яраслава, які збег з Кіева, з дапамогаю свайго цесця — польскага караля — рушыў на Кіеў, Усяслаў вярнуўся ў Полацк. Старэйшы сын Яраслава аднавіў сваю ўладу ў Кіеве, асадзіў і ўзяў Полацк. Усяслаў Чарадзей праз нейкі час адбіў сваю сталіцу. Увесь час, пакуль ён княжыў у Полацку, кіеўскія князі не пакідалі намеру перамагчы яго. Але гэта не ўдалося ні сынам Яраслава, ні Уладзіміру Манамаху, які авалодаў кіеўскім прастолам пасля іх. Усяслаў Чарадзей адстаяў і горад, і незалежнасць свайго княства, незалежнасць Полацкай зямлі — так у той час называлі беларускую зямлю.

# Князі Полацкай зямлі

**БАРЫС УСЯСЛАВІЧ** — *полацкі князь,* сын *Усяслава Брачыславіча. Год нараджэння невядомы. Памёр у 1128 г.*

**ГЛЕБ УСЯСЛАВІЧ** — *першы менскі князь. Нарадзіўся ў 1070 г. Памёр у 1119 г.*

**ВАСІЛЬКА** — *полацкі князь. Жыў у 12 ст.*

Цяжкія часы чакалі Полацкую зямлю пасля смерці Усяслава Чарадзея. Яго дзеці валодалі кожны сваім горадам і часта ваявалі паміж сабой. Улада князя аслабла. У Полацку сход гараджан — веча — то выганяў князёў з горада, то запрашаў зноў, потым зноў выганяў.

Нашчадкі Усяслава Полацкага ваявалі з нашчадкамі Яраслава Мудрага, кіеўскімі князямі. Але ніхто не праславіўся перамогамі ў гэтых войнах, бо родзіч ішоў на родзіча, славянін забіваў славяніна.

Такія падзеі адбываліся на той час не толькі на беларускай зямлі. Усе краіны сярэднявечча прайшлі праз гэта: і Францыя, і Італія, і Англія. Развальвалася і старажытная Кіеўская дзяржава.

Але, нягледзячы на тое, што час не нарадзіў сапраўдных князёў-герояў, варта расказаць пра некаторых з тых, каму дасталася спадчына Усяслава Чарадзея, бо і яны пакінулі след у нашай гісторыі.

Старэйшага сына Усяслава Полацкага звалі Барысам. Гэта імя, якое ён атрымаў пры хрышчэнні. А бацька назваў яго Рагвалодам, у гонар славутага прапрадзеда. Барысу-Рагвалоду і дастаўся полацкі прастол пасля смерці Усяслава Чарадзея. Князь Барыс Усяславіч быў жанаты з дачкою вялікага кіеўскага князя. Ён зрабіў некалькі паходаў на суседнія плямёны яцвягаў і земгалаў. Апошні паход скончыўся вельмі няўдала, і гараджане, сабраўшыся на вечы, прагналі Барыса і пасадзілі на трон аднаго з яго братоў.

Але не гэтым праславіўся Барыс. Вярнуўшыся са свайго пераможнага паходу супраць яцвягаў, князь Барыс Усяславіч Полацкі заснаваў на рэчцы Бярэзіне горад і назваў яго сваім імем — Барысаў. Горад гэты

прастаяў не адну сотню гадоў, стаіць і цяпер; сваёй назвай шануе памяць аб полацкім князю.

Засталася памяць пра Барыса і дзякуючы Барысавым камяням. Гэтыя вялізныя валуны ляжалі ў рэчышчы Заходняй Дзвіны, а таксама каля вёскі Каменка недалёка ад Вілейкі і каля вёскі Высокі Гарадзец у Талачынскім раёне. На камянях высечаны шасціканцовыя крыжы і надпіс «Господи, помози рабу своему Борису». Гэтыя надпісы загадаў выбіць Барыс Усяславіч у 12 стагоддзі, 800 гадоў назад, каб увекавечыць сваё імя. Частка камянёў прапала. Да нашага часу захаваліся толькі 4 такія камяні. Яны данеслі да нас праз гады імя полацкага князя. Усе Барысавы камяні сёння з'яўляюцца гістарычнымі помнікамі.

Другі сын Усяслава Чарадзея — князь Глеб — атрымаў ва ўладанне невялікі тады гарадок Менск. Князь Глеб шмат ваяваў. Ад яго ішлі спрэчкі і сваркі паміж сынамі Усяслава Чарадзея. Ён рабіў набегі на сваіх суседзяў, рабаваў іх гарады і вёскі.

Такі тады быў час, так дзейнічалі многія князі. Кіеўскі князь Уладзімір Манамах перамог Глеба і асадзіў Менск. Глебу давялося заключыць з ім мір. Праз некаторы час Глеб Менскі ўзнавіў напады. І тады сын Уладзіміра Манамаха захапіў Менск, а самога Глеба адвезлі ў Кіеў і кінулі ў цямніцу. Так склаўся лёс Глеба Усяславіча Менскага.

Але імя князя Глеба назаўсёды звязана з Менскам. Прайшлі стагоддзі, Менск стаў сталіцай Беларусі, галоўным горадам беларускай зямлі. І мы заўсёды будзем памятаць, што першым князем у Менску быў сын Усяслава Чарадзея Полацкага — князь Глеб Усяславіч Менскі.

Усе гэтыя падзеі адбываліся ў 12 стагоддзі. Славянскія землі былі ахоплены войнамі паміж князямі-родзічамі. У Кіеве памёр князь Уладзімір Манамах, апошні магутны ўладар, які стрымліваў спрэчкі і бойкі. Цяжкі лёс чакаў і Полацкае княства. Яго князі — прамыя нашчадкі Рагнеды і Уладзіміра — заўсёды былі супернікамі кіеўскіх князёў. Але ў часы Усяслава Чарадзея Полацк змог адстаяць сябе. Цяпер жа яго сыны і ўнукі ваявалі між сабой. Кіеўскі князь Мсціслаў, сын Уладзіміра Манамаха, аб'яднаў сваіх родзічаў і напаў на Полацк і іншыя гарады княства. Войскі рухаліся з усіх чатырох бакоў — з захаду, з поўначы, усходу і поўдня. Князі Полацкага княства пацярпелі паражэнне. Іх землі былі абрабаваны, гарады разбураны, вёскі спалены. Саміх князёў захапілі ў палон. Разам з жонкамі і дзецьмі іх пасадзілі на тры лодкі і завезлі ў Царград-Канстанцінопаль. Гэта была ссылка — яны не мелі права вяртацца на радзіму.

Але адзін князь — яго імя Васілька — збег з гэтага палону і вярнуўся дамоў. Гараджане Полацка сабраліся на веча, выгналі князя, якога ў іх пакінулі захопнікі, і абралі сваім князем Васільку.

Унутраныя войны разрывалі на часткі і старажытную Кіеўскую дзяржаву. Жыхары Ноўгарада выгналі з горада сына князя Мсціслава кіеўскага. Уцякаючы з Ноўгарада, ён нечакана сустрэў па дарозе полацкага князя Васільку з дружынаю. Васілька мог адпомсціць за жорсткасць, з якой яго бацька абышоўся з полацкімі князямі. Але Васілька не стаў карыстацца няшчасцем сына свайго ворага. Ён не крануў яго і даў клятву не памятаць зла.

У той час, калі князі ваявалі між сабою, здаралася нават, што брат прагнуў крыві роднага брата, веліка-

душша полацкага князя здзівіла многіх гісторыкаў. Дарэчы, Васілька Полацкі быў братам славутай Ефрасінні Полацкай.

Зразумела, падзеі 12 стагоддзя цяжкія і сумныя ў гісторыі беларускай зямлі. Але ўсё ж такі яны пакінулі нам імёны трох князёў, якія варта памятаць: імя заснавальніка горада Барысава — полацкага князя Барыса Усяславіча, першага князя Менска Глеба Менскага і Васількі Полацкага.

# Княгіня Прадслава, Ефрасіння Полацкая

**ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ** (*свецкае імя* **ПРАДСЛАВА**) — *полацкая князёўна. Нарадзілася ў 1120 г. Памерла ў 1173 г.*

**БОГША ЛАЗАР** — *полацкі майстра-ювелір. Жыў у 12 ст.*

**МАНУІЛ КАМНІН** — *імператар Візантыйскай імперыі, сваяк Ефрасінні Полацкай. Жыў у 12 ст.*

Імя Ефрасінні Полацкай займае асаблівае, пачэснае месца ў нашай старажытнай гісторыі. Гэта князёўна не стала пачынальніцай княжацкай дынастыі, як Рагвалод, яна не кіравала дзяржавай, як кіеўская Вольга. Але яе імя стала сімвалам імкнення душы да ведаў, да веры, таму яно і пераæжыло стагоддзі.

Ефрасіння была ўнучкаю легендарнага князя Усяслава Чарадзея, дачкою князя Георгія Усяславіча. Яна нарадзілася ў Полацку, яе першае імя — Прадслава. Чуткі аб прыгажосці полацкай князёўны разышліся за межы Полацкай зямлі. Многія суседнія князі, і з Кіева, і з Ноўгарада, хацелі ўзяць яе за жонку і прасілі рукі прыгажуні. Да таго ж князёўна была адукаваная, што ў тыя часы было вялікай рэдкасцю.

Прадслава ўмела чытаць і пісаць. Болей за ўсё на свеце яна шанавала кнігі, асабліва святыя пісанні.

Князёўна адмовіла ўсім сваім жаніхам — яна вырашыла пайсці ў манастыр, каб усё сваё жыццё аддаць служэнню Богу і свайму народу. Бацька не разумеў яе і хацеў выдаць замуж. Тады Прадслава адважылася пайсці насуперак волі бацькоў. Яна таемна ўцякла ў жаночы манастыр, а потым і пастрыглася ў манашкі. Так князёўна Прадслава стала манашкай Ефрасінняй. Бацькі прасілі яе вярнуцца, але дачка засталася верная абранаму шляху.

Доўгі час яна жыла ў адзіноце. Яе пакойчык — «галубніца» — месціўся ў царкве, у Полацкай Сафіі, што была пабудавана Усяславам Чарадзеем. Ефрасіння чытала Біблію, малілася Богу, разважала пра сэнс жыцця. Яна пачала перапісваць кнігі і нават пісаць летапісы.

Зразумела, Ефрасіння была не простаю манашкаю. Як князёўна яна мела шмат грошай. Дзякуючы гэтаму, яна заснавала жаночы манастыр, якім потым і кіравала —

стала ігуменняй. Родная сястра Ефрасінні Гардзіслава таксама пастрыглася ў манашкі і пачала перапісваць кнігі. Паступова вакол Ефрасінні сабралася шмат людзей, якія многа зрабілі дзеля асветніцтва ў Полацкім княстве. Манастыр Ефрасінні Полацкай стаў асветніцкім цэнтрам не толькі на беларускіх землях. Кнігі, што перапісваліся ў гэтым манастыры, былі вядомы і ў Ноўгарадзе, і ў Кіеве.

Дзякуючы Ефрасінні меў магчымасць працаваць адзін з першых беларускіх дойлідаў — архітэктар Іаан. Ён пабудаваў цудоўную сваёй прыгажосцю Спаса-Ефрасіннеўскую царкву, што ўпрыгожыла Полацк, а таксама манастыр у Бельчыцах і яшчэ некалькі храмаў.

У Полацку жыў і славуты майстра-ювелір Лазар Богша. Па загадзе Ефрасінні ён зрабіў знакаміты шасціканцовы крыж. Крыж быў абкладзены залатымі і сярэбранымі пласцінамі з эмалевымі выявамі святых і надпісамі, багата аздоблены каштоўнымі камянямі.

Гэты надзвычайны помнік даўніны захоўваўся аж да сярэдзіны 20 стагоддзя. Ён знаходзіўся ў Магілёўскім музеі і знік у гады нямецкай акупацыі. Вучоныя-гісторыкі мараць знайсці яго і вярнуць у скарбніцу нашага гістарычнага багацця.

Як выдома, кіеўскія князі параднілася з візантыйскімі імператарамі. Многія кіеўскія князёўны былі ўзяты за жонак у Царград-Канстанцінопаль, многія князі жаніліся з дочкамі імператараў. Існавалі гэтыя сувязі і паміж візантыйскімі і полацкімі ўладарамі. Ефрасіння Полацкая даводзілася сваячкаю імператару Мануілу Камніну. Пабываўшы ў Царградзе, яна атрымала ад яго ў падарунак абраз эфескай Маці Боскай, які паводле легенды стварыў адзін з дванаццаці апосталаў Ісуса Хрыста — Лука. Ефрасіння Полацкая прывезла гэты

абраз у свой манастыр, і ён стаў надзвычайнай рэліквіяй для хрысціян.

Пазней гэты абраз трапіў у горад Тарапец. Тут адбылося вяселле траюраднай пляменніцы Ефрасінні Полацкай — Аляксандры Брачыславўны і вялікага князя Аляксандра Неўскага. Маладых баслаўлялі цудоўным абразом.

У канцы свайго жыцця Ефрасіння Полацкая зрабіла паломніцтва ў Іерусалім, да труны заснавальніка хрысціянскай рэлігіі Ісуса Хрыста. У Іерусаліме яна і памерла. Пахавалі Ефрасінню ў Пячэрскай Лаўры, у Кіеве, бо на той час гэта было самае святое месца на славянскіх землях.

Праваслаўная царква далучыла першую асветніцу беларускай зямлі да святых. Яе дзейнасць пакінула след не толькі ў гісторыі, але і ў душы беларускага народа, народа, адвеку звязанага з кнігай, народа, што з тых далёкіх часоў пракладваў ва ўсходнеславянскіх землях шляхі асветніцтва і адукацыі.

# Кірыла Тураўскі

*Адзін з першых пісьменнікаў і прапаведнікаў на беларускай зямлі. Нарадзіўся ў 1130 г. Памёр у 1182 г.*

Кірыла Тураўскі — адзін з самых славутых пісьменнікаў старажытнаславянскай літаратуры. На вялікі жаль, згубіліся імёны многіх аўтараў, што пісалі ў тыя далёкія часы, страчаны і многія творы. Мы нават не ведаем, хто аўтар «Слова аб паходзе Ігаравым», якое лічыцца вяршыняй старажытнаславянскай літаратуры. Вучоныя спрачаюцца, хто напісаў першы летапіс — «Аповесць мінулых гадоў» — манах Нестар ці нехта іншы. Вельмі мала звестак дайшло да нас і пра Кірылу Тураўскага.

Кірыла Тураўскі (у той час было прынята дадаваць да імя славутых людзей назву таго месца, дзе яны нарадзіліся або жылі. Напрыклад, калі мы кажам Леанарда да Вінчы, то гэта значыць, што славутага мастака звалі Леанарда, а нарадзіўся ён у горадзе Вінчы) нарадзіўся і жыў на Палессі, у горадзе Тураве. Паходзіў з даволі заможнай сям'і. Калі стаў дарослым, захацеў вучыцца і таму пайшоў у манастыр. Так рабілі ўсе, хто цікавіўся кнігамі, бо кнігі ў той час былі ў асноўным царкоўныя. Да таго ж Кірылу падабалася жыццё манаха. Ён любіў быць адзін, любіў разважаць. За гады жыцця ў манастыры ён праславіўся і як вучоны кніжнік, і як чалавек незвычайнай маральнай чысціні — падзвіжнік. Падзвіжнік — гэта той, хто здольны на духоўны подзвіг, хто можа адмовіцца ад няпраўды, ад лёгкага жыцця, хто служыць вышэйшай узнёслай ідэі.

Кірыла вырашыў прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу і людзям. Ён перасяліўся ў вежу, перанёс туды сваю бібліятэку і загадаў замураваць дзверы, каб не мець магчымасці выйсці. Некалькі гадоў ён правёў у малітвах, чытаў святыя кнігі і пісаў сам.

Слава пра Кірылу Тураўскага разнеслася далёка за межы Палесся. Жыхары Турава ўгаварылі яго заняць

месца епіскапа. Кірылу давялося пакінуць сваю вежу. Стаўшы епіскапам, ён чытаў пропаведзі. Паслухаць яго словы-казані прыходзілі з усіх куткоў славянскіх зямель. Кірыла расказваў людзям прытчы, заклікаў любіць адзін аднаго, рабіць толькі добрае і сцерагчыся зла.

За красамоўства Кірылу Тураўскага празвалі Златавустам. Нават князь Андрэй Багалюбскі, што пасля заняпаду старажытнакіеўскай дзяржавы стаў вялікім князем уладзімірскім, прасіў у Кірылы Тураўскага парады і заўсёды прыслухоўваўся да яго думкі.

Да нас дайшлі некаторыя творы Кірылы Тураўскага. Яны напісаны на ўзорах візантыйскай царкоўнай літаратуры. «Словы», «Малітвы» і «Прытчы» Кірылы Тураўскага — сапраўдныя паэтычныя жамчужыны. Вядома, што ў народзе іх перапісвалі ад рукі аж да 19 стагоддзя. Яны былі патрэбны людзям тысячу гадоў, як патрэбна нам і імя самога Кірылы Тураўскага. Мы павінны памятаць пра яго, памятаць, што з самай далёкай даўніны нашыя продкі жылі высокімі пачуццямі і глыбокімі думкамі, стварылі каштоўныя багацці, якія пакінулі нам у спадчыну.

# Вялікі князь Міндоўг і яго сын Войшалк

**МІНДОЎГ** — *вялікі князь Вялікага княства. Каранаваўся ў 1253 г., забіты ў 1263 г.*

**ВОЙШАЛК** — *вялікі князь Вялікага княства з 1264 г. Нарадзіўся ў 1223 г. Памёр у 1268 г.*

У гісторыі кожнай краіны бываюць цяжкія часы. То іншаземцы захопяць краіну, разбураць яе, панішчаць тое, што народ ствараў сотнямі гадоў. То самі людзі страцяць сэнс жыцця, пачнуць перабудовы і заблытаюцца, парушаць старое, а новае стварыць не здолеюць. Іншы раз развальваюцца і знікаюць з карты свету вялікія і багатыя дзяржавы, а на іх месцы ўзнікаюць новыя, зусім іншыя народы, нацыі. Так было, напрыклад, з егіпцянамі, ці асірыйцамі, а таксама з нашымі суседзямі прусамі, якіх знішчылі германцы.

Некалі гэтыя народы жылі, мелі землі, вёскі і гарады, мову, песні і веру — а на сённяшні дзень ад іх не засталося ніводнага нашчадка — толькі помнікі, што раскапалі археолагі, ды звесткі ў працах гісторыкаў.

Але калі народ моцны, калі ў яго нетрах захавалася *жыццёвая сіла, ён можа перамагчы навалу, перажыць* гады разбурэння, адрадзіцца зноў да жыцця — стварыць новую дзяржаву і працягваць свой след на гэтай планеце. І тады не знікнуць яго мова, песні і вера, адродзяцца яго вёскі і гарады, а сярод людзей з'явяцца імёны славутых правіцеляў, геніяльных пісьменнікаў, мужных воінаў і знакамітых вучоных.

Гэтак было, напрыклад, з Англіяй, якую спачатку паваявалі нарманы, потым французскія рыцары. Але Англія кожны раз уздымалася і на сённяшні дзень засталася Англіяй. Так было і з Германіяй — вялізнай імперыяй, што стварыў Карл Вялікі, якая разбурылася і доўгі час існавала ў прыніжаным становішчы, а потым узрадзілася ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя. Так было і з нашымі суседзямі — рускімі, якіх амаль знішчыла мангольскае нашэсце, ды яны аднавіліся як Масковія, а потым Расія.

Гэтак жа было і з беларускай зямлёй. Унутраныя спрэчкі і войны з кіеўскімі князямі падарвалі моц Полацкага княства. Але ўсіх славян чакала агульная бяда — з усходу, са стэпаў прыйшлі манголы і падпарадкавалі сабе старажытную Кіеўскую дзяржаву. Яна была амаль што знішчана, гарады зруйнаваны, вёскі спалены, жыхары абрабаваны. Дзвесце годоў панавалі манголы. Князям Кіева, Уладзіміра, Масквы і Ноўгарада давялося служыць мангольскім ханам Залатой Арды.

Водгукі гэтых падзей дакаціліся і да беларускіх зямель. У манголаў не хапіла сілы падпарадкаваць сабе Полацкае і Тураўскае княствы. Але нашай старажытнай айчыне пагражала бяда з другога боку — з захаду, адкуль рухаліся германскія захопнікі.

Славяне і германцы здаўна жылі па суседстве. Германцы былі больш ваяўнічыя. Па іх законах зямля і маёмасць, якой валодаў бацька, пераходзіла ў спадчыну не ўсім сынам, а толькі старэйшаму. Малодшыя павінны з мячом у руках здабываць сабе і зямлю, і сродкі для жыцця. Таму германцы пастунова рухаліся на ўсход — на славянскія землі і сяліліся на іх.

Калі славяне не пускалі да сябе чужынцаў, іх сілай зганялі з сваіх вёсак і гарадоў. Так вялізныя прасторы, на якіх жылі славяне, перайшлі да германцаў. Захаваліся толькі назвы першапачатковых гаспадароў. Назва ракі Лаба ператварылася ў Эльбу, Спрэя — у Шпрэ, славянская вёска Берлін, што значыць «свабоднае месца», стала нямецкім горадам Берлінам, горад Холін — Кёльнам, горад Бранібор — Брандэнбургам. Усе гэтыя падзеі атрымалі ў германскай гісторыі назву «дранг нах остэн» — націск на ўсход. У выніку гэтага націску германцы знішчылі сотні тысяч славян і захапілі іх землі. Славянскія плямёны чэхаў і палякаў

супынілі германцаў. У многіх бітвах яны адстаялі сваю незалежнасць. Але прайшоў час, і германцы зноў пачалі рухацца на ўсход.

У Еўропе ўжо існавалі магутныя дзяржавы — Англія, Іспанія, Францыя, германскія княствы. Духоўную ўладу над імі замацавала каталіцкая царква, якой кіраваў папа рымскі. На азіяцкім Усходзе войскам еўрапейцаў-хрысціян удалося перамагчы мусульман і захапіць горад, дзе быў распяты і пахаваны Ісус Хрыстос, — Іерусалім. Але пазней мусульмане разбілі рыцараў-хрысціян і прагналі іх. Вярнуўшыся ў Еўропу, ваяўнічыя рыцары пайшлі на землі славян і балтаў. На ўзбярэжжа Балтыйскага мора прабіліся рыцары Тэўтонскага ордэна, названага так у гонар старажытнага германскага племя. Пазней узнік і яшчэ адзін рыцарскі ордэн — Лівонскі. Лівоніяй немцы называлі Прыбалтыку, ад назвы фінскіх плямёнліваў, што некалі там жылі. На шчытах рыцараў былі намаляваны крыжы — бо некалі яны ўдзельнічалі ў крыжовых паходах на Іерусалім. Таму іх часта называлі крыжакамі. Гэтыя два ордэны (ордэн значыць «саюз») ставілі за мэту падпарадкаваць сабе і беларускія землі. Да беларускіх гарадоў і княстваў у той час ірваліся з аднаго боку мангола-татары, з другога — нямецкія рыцары-крыжакі. Цяжкае было і ўнутранае становішча. Дынастыя Рагвалода амаль што выродзілася. Не знаходзілася валадара, які змог бы моцнай рукой аб'яднаць землі былой Полацкай дзяржавы і абараніць іх ад нашэсцяў, захопаў і разбурэнняў, утрымаць ад заняпаду.

Побач з беларускімі землямі жыло племя пад назвай літва, якое не мела пісьменнасці, не ведалі дзяржаўнасці, было язычніцкае, паганскае. У той неспакойны і суровы час многія літоўскія правадыры-князі збіралі баявыя дружыны і ўчынялі дзёрзкія напады на

суседзяў, рабавалі што маглі. Іншы раз ваяўнічых літоўскіх князёў разам з іх дружынамі наймалі на вайсковую службу суседнія славянскія гарады, якія на той час ужо ператварыліся ў асобныя самастойныя княствы.

Адзін з такіх князёў і стаў пачынальнікам новай беларускай дзяржавы. Яго звалі Міндоўг. Ён быў старэйшым сынам Рынгольда, правадыра аднаго з літоўскіх плямён. Як і вікінгі-варагі, Міндоўг вёў ваяўнічае жыццё. Аднаго разу ён даў сваім братам зусім невялікія дружыны і адправіў іх па здабычу. А калі яны вярталіся, падсцярог і забіў іх. Так ён захапіў уладу і стаў адзіным уладаром племя літвы.

Праз нейкі час Міндоўга запрасілі на службу ў Новагародак (цяпер Навагрудак). Ён згадзіўся абараняць горад ад нямецкіх рыцараў і набегаў мангола-татараў. Міндоўг тут ахрысціўся і хутка гараджане сталі лічыць яго сваім князем. Новагародскі ўладар удала вёў войны супраць ворагаў і паступова княства стала самае значнае і магутнае на беларускіх землях. Новагародку сталі падпарадкоўвацца спачатку суседнія, а потым амаль усе гарады былога магутнага Полацкага княства. Нават у самім Полацку кіраваў пляменнік Міндоўга — Таўцівіл. Так утварылася новая беларуская дзяржава, якая атрымала назву Вялікае княства Літоўскае.

Многіх у наш час здзіўляе, чаму беларуская дзяржава называлася літоўскаю. Адбылося гэта таму, што звычайна дзяржаву называюць па паходжанні княжацкай або царскай дынастыі. Чаму, напрыклад, славянская дзяржава са сталіцай у Ноўгарадзе, а потым у Кіеве атрымала ў гісторыі назву Русь. А таму, што некалі запрасілі княжыць князя з варагаў, якіх называлі русамі або руссю. А такая дзяржава, як Францыя (яе насялялі галы), атрымала сваю назву ад нямецкага племя

франкаў, бо ўлада належала франкскім каралям. Франкаў было мала, яны хутка зніклі сярод галаў, а назва засталася. Гэтак жа было і на беларускіх землях. Вялікае княства называлі літоўскім, бо княжацкая дынастыя пачалася ад Міндоўга, які паходзіў з літоўскага племя. Да таго ж тыя, каго сёння называюць літоўцамі, у той час называліся жмудзінамі, а месца, дзе яны жылі, — Жмуддзю, краіны і дзяржаўнасці яны яшчэ не мелі.

Міндоўг увайшоў у гісторыю як мужны воін і таленавіты дыпламат. Вялікі князь сабраў моцнае войска і некалькі раз адбіваў набегі мангола-татараў. Але змагацца з нямецкімі крыжакамі было цяжэй. Іх падтрымліваў папа рымскі, які не прызнаваў праваслаўнага хрысціянства. Ён наперад адпускаў рыцарам усе грахі, калі яны ваявалі супраць славян. Кожны год папа рымскі збіраў больш як мільён залатых, каб дапамагчы заваёўнікам.

Барацьба з нямецкімі рыцарамі цягнулася доўга. Неаднойчы Міндоўг перамагаў іх, але здараліся і паражэнні. Тады князь ішоў на перамовы і іншыя дыпламатычныя захады. Ён уступіў у саюз з крыжакамі. Праз пяць гадоў пасля хрышчэння па праваслаўным абрадзе яму давялося перайсці ў каталіцкую веру. Пасля гэтага Міндоўга прызнаў і папа рымскі. Ён прыслаў яму карону, князь каранаваўся ў Навагародку як сапраўдны кароль. Нямецкія рыцары прыпынілі націск. Але войны не сціхалі. Міндоўг ваяваў і з рускімі князямі — са Смаленскім і Галіцкім княствамі, з суседзямі, у тым ліку з Полацкам, які на хацеў яму падпарадкоўвацца.

І ўсё ж Міндоўг, заключыўшы саюз з рускім князем Аляксандрам Неўскім, які ажаніўся з полацкай князёўнай, і праз нейкі час, злучыўшыся з войскамі Віцебска і Полацка, разграміў крыжакоў.

Сярод правадыроў літоўскіх дружын было шмат тых, хто быў пакрыўджаны на Міндоўга. У аднаго з іх — Даўмонта — Міндоўг адабраў жонку. Родзіч Даўмонта, жамойцкі князь Транята, параіў яму адпомсціць вялікаму князю, і Даўмонт па-здрадніцку забіў Міндоўга.

Транята падштурхнуў Даўмонта да забойства, таму што сам марыў стаць вялікім князем. Ён забіў двух сыноў Міндоўга і хацеў заняць месца на прастоле. Але заставаўся даволі моцны сапернік — пляменнік Міндоўга Таўцівіл, што княжыў у Полацку.

Транята запрасіў яго да сябе, каб дамовіцца, як падзяліць уладу. На самай справе Транята вырашыў пазбавіцца і ад Таўцівіла. Таўцівіл добра разумеў гэта. Але ён лічыў, што зможа завалодаць прастолам, і сам рыхтаваў забойства Траняты. У час перагавораў полацкі баярын Пракопій здрадзіў свайму князю, і Таўцівіл загінуў. Транята ўжо збіраўся прыняць карону. Але ў гэты момант конюх Міндоўга, які шанаваў памяць свайго былога гаспадара, нанёс Траняту смяротны ўдар.

Пачалася барацьба за прастол. Пераможцам выйшаў сын Міндоўга — Войшалк.

Гістарычныя крыніцы апавядаюць, што ў маладосці Войшалк быў язычнікам і неаднойчы жорстка расправіўляўся з хрысціянамі, але потым перайшоў у новую веру і стаў дбайным хрысціянінам. Лёс звязаў яго з князямі Галіцкага княства Шварнам (Сварамірам) Данілавічам і Львом Данілавічам. Родная сястра Войшалка была жонкаю Шварна Данілавіча. У адным з манастыроў Галіцкага княства Войшалк пастрыгся ў манахі, потым зрабіў падарожжа на святую гару Афон. Вярнуўшыся на радзіму, князь-манах пасяліўся ў заснаваным ім манастыры.

Калі пасля забойства Міндоўга, Таўцівіла і Траняты ў Вялікім княстве пачалося безуладдзе, Войшалк памяняў адзенне манаха на вайсковыя даспехі. У кароткі час ён з'яднаў вакол сябе сілы, верныя Новагародку, і з дапамогай саюзнікаў з Галіцкага княства і з Полацка ўзяў уладу ў свае рукі. Войшалк выгнаў з Вялікага княства забойцу Міндоўга — Даўмонта. Той уцёк у Пскоў і доўгі час узначальваў пскоўскае войска і неаднойчы нападаў на беларускія землі. Войшалк перамог усіх ворагаў і аднавіў уладу князя, не даў загінуць маладой дзяржаве.

Пасля гэтага ён зноў пайшоў у манастыр. Правы на велікакняжацкі прастол ён аддаў мужу сваёй сястры — галіцкаму князю Шварну (Свараміру) Данілавічу. Родны брат Шварна Леў Данілавіч пакрыўдзіўся за гэта і ў спрэчцы забіў Войшалка.

Так у забойствах, унутраных і знешніх войнах нараджалася Вялікае княства. У гэтым няма нічога дзіўнага. Такі быў тады час, так складвалася і гісторыя суседняй Русі, і гісторыя заходнееўрапейскіх дзяржаў, напрыклад, Францыі ці Англіі. Для сярэднявечча гэта было звычайнай з'явай. Міндоўг і Войшалк увайшлі ў нашу гісторыю як князі, што сталі каля падмурка дзяржавы, якую праславіць потым імя заснавальніка новай княжацкай дынастыі — Гедзіміна.

# Гедзімін і Альгерд

**ВІЦЕНЬ** — *вялікі князь Вялікага княства з 1293 г. Памёр у 1316 г.*

**ГЕДЗІМІН** — *вялікі князь Вялікага княства з 1316 г. Нарадзіўся каля 1275 г. Памёр у 1341 г.*

**АЛЬГЕРД** — *вялікі князь Вялікага княства з 1345 г. Нарадзіўся ў 1296 г. Памёр у 1377 г.*

Князь Гедзімін стаў заснавальнікам новай княжацкай дынастыі, другой у гісторыі беларускіх земель дзяржавы — Вялікага княства.

Пасля смерці Войшалка, сына Міндоўга, пачалася барацьба за ўладу. Карона князя на нейкі час дасталася аднаму з літоўскіх князёў — Трайдзену. Ён здолеў перамагчы суседзяў, навесці парадак унутры дзяржавы. Але Трайдзен застаўся язычнікам. Ён быў чужы і варожы да асноўнай часткі насельніцтва Княства. Таму пасля яго смерці зноў настала безуладдзе.

Аб'яднаў і ўмацаваў краіну новы князь — Віцень. Паводле падання, ён быў сынам Лютавера. Адзін з летапісаў паведамляе, што Віценя паклікалі да сябе жыхары Полацка. Там тады княжыў нашчадак Таўцівіла, які ахрысціўся па каталіцкім абрадзе. Пры ім у Полацку з'явіліся каталіцкія манахі. Гэты князь наладзіў дружалюбныя адносіны з нямецкімі рыцарамі-крыжакамі і нават пайшлі чуткі, што перад смерцю ён перадаў уладу крыжакам. Вось тады гараджане і звярнуліся да Віценя.

Віцень загадаў разбурыць касцёл, выгнаць каталіцкіх манахаў і разграміў нямецкіх рыцараў-крыжакоў. Барацьба з нямецкімі захопнікамі стала галоўнай справай яго жыцця. У войску Віценя было шмат літоўскай знаці, якая служыла яшчэ Трайдзену. Многія з іх прыхільна ставіліся да немцаў. Віцень жорстка пакараў усіх здраднікаў. У часы праўлення Віценя праславіўся выдатны палкаводзец таго часу — Давыд Гарадзенскі. Калі крыжакі накіраваліся да сталіцы Вялікага княства — Навагародка, войскі пад кіраўніцтвам Давыда Гарадзенскага ўшчэнт разграмілі іх.

Пасля Віценя вялікім князем стаў яго брат Гедзімін. Гісторыкі не могуць дакладна вызначыць, хто былі Віцень і Гедзімін па паходжанні. Адны кажуць, што

яны сыны ўпамянутага князя Лютавера. Калі гэта так, то і Гедзімін і Віцень славяне. Другія гісторыкі сцвярджаюць, што яны продкі літоўскіх князёў. Трэція ўпэўнены, што Віцень і Гедзімін выйшлі з асяроддзя смаленскіх князёў. Чацвёртыя даказваюць, што яны нашчадкі полацкіх князёў, якія малалетнімі былі сасланы ў Канстанцінопаль.

Як бы там ні было, менавіта Гедзімін даў імя новай княжацкай дынастыі Вялікага княства і менавіта пры ім яно сапраўды стала вялікім. Гедзімін нанёс шэраг ударав па нямецкіх рыцарах, пасля якіх крыжакі ўжо не асмельваліся нападаць на беларускія землі. Вялікае княства заключыла саюз з Польшчай. Сыны Гедзіміна княжылі на Валыні і нават у Ноўгарадзе. Смаленск і Кіеў прыслухоўваліся да патрабаванняў Гедзіміна.

Гедзімін увайшоў у гісторыю яшчэ і таму, што перанёс сталіцу Вялікага княства з Новагародка ў заснаваны ім горад Вільню. З тае пары гэты цудоўны горад на некальні сотняў гадоў стаў цэнтрам беларускай дзяржавы.

Умацаваўшы сваю ўладу, Гедзімін афіцыйна абвясціў сябе вялікім князем. Карона Гедзіміна — шапка Гедзіміна — стала галоўнай велікакняжацкай рэгаліяй. Ёй потым каранаваліся ўсе вялікія князі Вялікага княства. У гісторыі беларускіх зямель яна мае такое ж сімвалічнае значэнне, як і шапка Манамаха ў гісторыі Расіі.

З часоў Гедзіміна пачалі складвацца асаблівыя адносіны паміж Вялікім княствам і Руссю, Масковіяй. Сталіцай Русі тады лічыўся Уладзімір. Русь знаходзілася яшчэ пад прыгнётам мангола-татараў. Адным з найбольш выдатных ваенных і палітычных дзеячаў тагачаснай Русі быў князь Аляксандр Неўскі, пасля смерці якога тытул вялікага князя ўладзімірскага перайшоў да яго пляменніка Міхаіла Цвярскога, што княжыў у

Цверы, якая сапернічала з Масквою. Маскоўскі князь, у якога былі добрыя адносіны з татарскім ханам, хацеў пры яго дапамозе дамагчыся тытула вялікага князя. Цвярскія князі больш спадзяваліся на законныя правы і на моц войска.

Гедзімін выдаў сваю дачку Марыю за вялікага князя Цвярскога Дзмітрыя Грозныя Вочы і доўгі час дапамагаў Цверы ў барацьбе супраць Масквы. Але маскоўскія князі падкупілі і паклёпамі перацягнулі на свой бок татарскага хана і перамаглі Цвер. Асабліва вызначыўся ў гэтай барацьбе заснавальнік будучай Маскоўскай дзяржавы Іван Каліта. Гедзіміну давялося змагацца супраць яго. Аднак праз нейкі час другая дачка Гедзіміна Аўгуста-Анастасія стала жонкаю сына Івана Каліты Сямёна Гордага.

Пасля ўсіх гэтых падзей гістарычныя шляхі Вялікага княства і Масковіі неаднойчы перакрыжуюцца. Многія з вялікіх князёў у Вільні будуць мець жонак з Масквы або Цверы, а маскоўскія ўладары — жонак з Вільні. Здавалася б, з тае нагоды абедзве дзяржавы павінны жыць мірна. На самай справе было наадварот. Узаемныя непаразуменні і прэтэнзіі распальвалі войны, якія і пагубілі Вялікае княства.

На той час у кожнай дзяржавы вялікае значэнне мела духоўная ўлада. У Еўропе яе трымаў у руках папа рымскі, якому былі падначалены ўсе хрысціяне-католікі. На ўсходзе духоўная ўлада належала патрыярху канстанцінопальскаму і яго намесніку мітрапаліту маскоўскаму. Ім падпарадкоўваліся хрысціяне-праваслаўныя. Жыхары Вялікага княства — продкі сучасных беларусаў — былі ў асноўным праваслаўнымі хрысціянамі. Але паколькі яны не мелі свайго мітрапаліта, то знаходзіліся пад духоўнай уладай маскоўскага.

Сам жа Гедзімін заставаўся язычнікам, ён не прыняў новай веры. Пры ім у Вільні пабудавалі язычніцкі храм. Але Гедзімін ажаніўся з праваслаўнай князёўнай, пяцёра яго сыноў ахрысціліся. Каб насельніцтва краіны не залежала ад маскоўскай духоўнай улады, Гедзімін выпатрабаваў свайго мітрапаліта. Першага на беларускіх землях мітрапаліта звалі Феафілам. Пры ім хрысціянам Вялікага княства ўжо не трэба было падпарадкоўвацца мітрапаліту маскоўскаму.

Загінуў Гедзімін як сапраўдны князь-воін, у баі. Яго войскі ўзялі ў асаду крэпасць крыжакоў Баербург. Пад яе сценамі і забілі Гедзіміна.

Паводле завяшчання бацькі карона дасталася яго малодшаму сыну — Яўнуцію, або ў хрышчэнні Іаану. Але старэйшыя сыны Альгерд і Кейстут захапілі ўладу. Яўнуцій-Іаан збег у Маскву. Гэта пагоршыла адносіны дзвюх дзяржаў і браты вылучылі яму невялікае Заслаўскае княства (пад Мінскам).

Вялікім князем стаў Альгерд. Ён захаваў Кейстуту яго правы і правіў разам з ім.

Альгерд увайшоў у гісторыю як адзін з найбольш значных палкаводцаў таго часу. На захадзе ён адбіў усе напады нямецкіх рыцараў-крыжакоў. На ўсходзе падпарадкаваў Смаленск і Пскоў. Ноўгарад таксама знаходзіўся пад яго ўплывам. Ля рэчкі Сінія Воды ён ушчэнт разграміў татараў і іх саюзнікаў, былых кіеўскіх князёў. Кіеў увайшоў у склад дзяржавы Альгерда. У ім княжыў яго сын Уладзімір. Тэрыторыя Вялікага княства дзякуючы Альгерду павялічылася ўдвая і распрасцёрлася ад Балтыйскага мора да Чорнага. Вялікае княства стала буйнейшай еўрапейскай краінай.

Першы раз Альгерд ажаніўся з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай. Пасля яе смерці ён узяў за жонку

дачку цвярскога князя Ульяну Цвярскую. Адносіны з Масквой былі вельмі складаныя. У Маскве тады княжыў Дзмітрый (пазней стане вядомы як Дзмітрый Данскі). Тройчы Альгерд падступаў пад сцены Масквы — сталіцы свайго суседа-саперніка.

Альгерд пакінуў пасля сябе аж дванаццаць сыноў. Нягледзячы на тое што ён быў хрышчоны, князь-воін загадаў пахаваць сябе паводле язычніцкага звычаю — спаліць на свяшчэнным вогнішчы разам са сваім любімым канём. Імёны Гедзіміна і Альгерда займаюць у нашай гісторыі вельмі пачэснае месца. Першы — заснавальнік княжацкай дынастыі, сапраўдны стваральнік новай дзяржавы — Вялікага княства. Другі — заснавальнік велічы і славы гэтай дзяржавы.

# Ягайла і Вітаўт

**ЯГАЙЛА** — *вялікі князь Вялікага княства з 1377 г. па 1392 г., кароль Польшчы з 1386 г. Нарадзіўся ў 1348 г. Памёр у 1434 г.*

**ВІТАЎТ** — *вялікі князь Вялікага княства з 1392 г. Нарадзіўся ў 1350 г. Памёр у 1430 г.*

Вялікі князь Ягайла, сын Альгерда і Ульяны Цвярской стаў заснавальнікам славутай каралеўскай дынастыі Ягелонаў. Яе прадстаўнікі правілі Польшчай, Чэхіяй, Венгрыяй і Прусіяй. Але, праславіўшы сваё імя, Ягайла не праславіў сваю Радзіму — Вялікае княства.

Ягайла з дзяцінства ведаў пра палітычныя і ваенныя поспехі свайго бацькі — вялікага князя Альгерда. Маці расказвала яму пра барацьбу за ўладу паміж князямі Масквы і Цверы. Мабыць, з юнацкіх гадоў Ягайла марыў аб веліччы. Калі памёр бацька, Ягайла заняў прастол у Вільні. Браты не пярэчылі.

Але на дарозе Ягайлы стаяў яго дзядзька — Кейстут, які пры жыцці Альгерда лічыўся князем-суправіцелем і меў пасля брата ўсе правы на прастол. Спачатку Кейстут прызнаў Ягайлу, але потым сагнаў яго з прастола. Тады Ягайла захапіў Кейстута і кінуў яго ў падзямелле Крэўскага замка. Праз нейкі час яго там і задушылі. Людзі Ягайлы схапілі жонку Кейстута Біруту і іх дарослага сына Вітаўта. Бірута была жрыцай язычніцкага храма. Некалі Кейстут сілаю ўзяў яе за жонку. Паводле адных звестак Ягайла загадаў утапіць Біруту ў рацэ, паводле другіх — яна выратавалася і вярнулася ў язычніцкі храм. Сын Кейстута Вітаўт уцёк з Крэўскага замка, пераапрануўшыся ў адзенне сваёй жонкі, і знайшоў прытулак у нямецкіх рыцараў-крыжакоў.

Так Ягайла авалодаў княжацкім прастолам. У Маскве на той час княжыў славуты Дзмітрый Данскі. Ягайла паслаў да яго сватоў. Ён хацеў ажаніцца з дачкою Дзмітрыя Данскога — Соф'яй. Гэты шлюб умацаваў бы Вялікае княства, і Ягайла, магчыма, меў бы правы на маскоўскі прастол. Дзмітрый Данскі згадзіўся, але запатрабаваў, каб Ягайла прызнаў залежнасць Вялікага княства ад Масквы.

Ягайла не хацеў залежаць ні ад каго і адмовіўся. Ён скіраваў сваю ўвагу на падзеі, якія адбываліся ў заходніх суседзяў Вялікага княства — Польшчы, Венгрыі, Аўстрыі і Брандэнбургу. Кароль Венгрыі Людовік Вялікі хацеў аб'яднаць Аўстрыю і Венгрыю і мець уплыў на Польшчу і Брандэнбург. У яго было тры дачкі: Кацярына, Марыя і Ядвіга. Польскія паны згадзіліся прызнаць Кацярыну сваёй каралевай. Марыю Людовік аддаў за ўладальніка Брандэнбурга, а Ядвігу пасватаў за наследніка аўстрыйскага прастола эрцгерцага Вільгельма. Але планы венгерскага караля не ажыццявіліся. Яго старэйшая дачка Кацярына памерла. Тады польскія паны прапанавалі карону яе сястры Марыі і яе мужу. Яны патрабавалі, каб каралева і кароль жылі ў Польшчы. Марыя не згадзілася, бо ў гэты час памёр сам Людовік Вялікі і яна стала каралевай Венгрыі.

Тады палякі абралі каралевай пятнаццацігадовую Ядвігу. Яна яшчэ не паспела выйсці замуж, і было вырашана прапанаваць яе за жонку Ягайлу. Польскія паны хацелі заключыць саюз з Вялікім княствам, каб мець ад яго ваенную і эканамічную падтрымку. Кажуць, што Ядвіга вельмі кахала свайго жаніха эрцгерцага Вільгельма, і калі яе зачынілі ў Кракаўскім замку, яна сякераю пасекла браму, каб вырвацца на спатканне. Кракаўскі епіскап Пятро Выш пераканаў Ядвігу згадзіцца на шлюб, бо Ягайла паабяцаў, што пасля таго, як стане каралём, ахрысціць жыхароў сваёй дзяржавы па каталіцкім абрадзе. Каб пазбегнуць сваркі з аўстрыйскім эрцгерцагам, Ягайла заплаціў яму 200 тысяч залатых форынтаў, і Вільгельм забыў пра сваю каханую.

Пасля пышнага вяселля Ягайла стаў каралём. Яго каранацыю прызналі папа рымскі і германскі імператар.

Па загадзе Ягайлы язычніцкі храм у Вільні разбурылі. Патушылі свяшчэнны агонь, пазабівалі свяшчэнных змей, што жылі ў дупле старога дуба, а сам дуб пасеклі. Усё насельніцтва пачалі хрысціць па каталіцкім абрадзе. Літоўцы, што жылі ў Вялікім княстве, былі язычнікамі. Яны хрысціліся з ахвотаю. Іншыя нават стараліся зрабіць гэта некалькі разоў, бо пры хрышчэнні кожнаму давалі каптан і чырвоныя боты. У Вільні пасяліўся першы каталіцкі епіскап — духоўнік каралевы Ядвігі.

Але жыхары гарадоў Гродна, Навагрудка, Полацка, Турава, Віцебска і Кіева хрысціцца па каталіцкім абрадзе не захацелі: яны ж ужо былі хрышчоныя як праваслаўныя. Іх незадаволенасць і скарыстаў сын Кейстута князь Вітаўт. Ён пачаў барацьбу супраць Ягайлы за незалежнасць Вялікага княства ад Польшчы.

Сем гадоў цягнулася вайна. У Ягайлы было войска, Вітаўта падтрымаў народ. Акрамя таго, Вітаўт вызначаўся як здольны палкаводзец, смелы і рашучы воін. Ягайла не вытрымаў і пайшоў на перамір'е. Па агульнай згодзе Вялікае княства зноў стала незалежнае, Вітаўт атрымаў тытул вялікага князя, Ягайла застаўся польскім каралём. Дзяржавы заключылі саюз, які меў вельмі важнае значэнне і даў выдатныя вынікі. Аб'яднаўшы свае ваенныя сілы дзве славянскія краіны нанеслі канчатковы ўдар па нямецкіх рыцарах-крыжаках. У бітве пры Грунвальдзе яны ўшчэнт разбілі ворагаў. Кіраваў аб'яднанымі сіламі Польшчы і Вялікага княства князь Вітаўт.

Вітаўту даводзілася многа ваяваць. Калі абараняцца, а калі і нападаць. Ён далучыў да Вялікага княства Смаленск. Сваю дачку Соф'ю Вітаўт аддаў за сына Дзмітрыя Данскога, але тройчы вадзіў свае палкі на Маскву. Мяжа паміж Вялікім княствам і Масковіяй у выніку за-

ваёў Вітаўта праходзіла недалёка ад самой Масквы. Вітаўт прадоўжыў справу Альгерда — пры ім Вялікае княства дасягнула самых значных памераў.

Вітаўт быў не толькі знакамітым палкаводцам, але і дыпламатам, і дзяржаўным дзеячам. На перамовах, якія праходзілі ў Польшчы, германскі імператар Сігізмунд прапанаваў Вітаўту карону. Гэта не спадабалася Ягайлу, які хацеў трымаць Вялікае княства ў залежнасці ад Польшчы. Вітаўт не мог паступіць па сваім жаданні. Паводле легенды, ён прасіў Ягайлу дазволіць яму хоць тры дні пабыць каралём, але зайздроснік Ягайла адмовіў. Сіла была на яго баку.

Праз год у Вільні ў Вітаўта сабраліся паслы многіх суседніх дзяржаў, прыехаў і ўнук Вітаўта, вялікі князь маскоўскі Васіль. Вітаўта абвясцілі каралём і паведамілі імператару Сігізмунду. Імператар адправіў карону і іншыя рэгаліі, патрэбныя для каранавання. Але ў Гданьску па загадзе Ягайлы карону адабралі. Вітаўт так і не стаў каралём і, паводле легенды, памёр ад смутку.

Ягайла заснаваў славянскую польскую каралеўскую дынастыю. Ён жа фактычна ахрысціў літоўцаў. У беларускай гісторыі больш шануюць князя Вітаўта — воіна, пераможцу Грунвальда, князя, што ўсё жыццё імкнуўся да кароны і не дасягнуў яе, але назаўсёды праславіў сваё імя тым, што адстаяў незалежнасць Вялікага княства.

# Соф'я Вітаўтаўна і яе сын Васіль Цёмны

**СОФ'Я ВІТАЎТАЎНА —** *жонка вялікага князя маскоўскага Васіля I, маці і суправіцельніца вялікага князя маскоўскага Васіля II. Нарадзілася ў 1371 г. Памерла ў 1453 г.*

**ВАСІЛЬ II ЦЁМНЫ —** *вялікі князь маскоўскі, унук вялікага князя Вялікага княства Вітаўта. Нарадзіўся ў 1415 г. Памёр у 1462 г.*

Асаблівасць гістарычнага лёсу беларускай зямлі ў тым, што яна заўсёды аказвалася на перакрыжаваннях барацьбы. Барацьбы веры, барацьбы ідэй, інтарэсаў. На перакрыжаванні еўрапейскага Захаду і расійскага Усходу. Сапраўдны цуд, што наш народ змог вытрымаць такі націск з абодвух бакоў, ды не адно стагоддзе! І не толькі не знікнуць, не перайначыцца, не згубіць свой характар, свой першародны сэнс, але і паўплываць на абодва бакі гэтай адвечнай барацьбы Захаду і Усходу.

Нашчадкі Рагнеды далі Кіеўскай Русі пісаныя законы. Нашчадак князёў Вялікага княства заснаваў польскую каралеўскую дынастыю. Другі нашчадак князёў Вялікага княства здолеў супыніць феадальнае разбурэнне Масковіі і закласці аснову будучай Расіі. Гаворка ідзе пра ўнука Вітаўта, сына Соф'і Вітаўтаўны Васіля II Цёмнага.

Татарскія ханы патрабавалі, каб дзеці маскоўскіх князёў знаходзіліся ў Ардзе як заложнікі. Калі Дзмітрый Данскі рыхтаваўся да барацьбы з татарамі, яго сын уцёк з Арды. Здарылася так, што князь Вітаўт дапамог яму схавацца ў Малдавіі. У памяць аб гэтых падзеях Вітаўт і аддаў сваю дачку Соф'ю за сына Дзмітрыя Данскога.

Сына Соф'і Вітаўтаўны і Васіля чакаў вельмі складаны лёс. Пасля смерці свайго бацькі ён у дзесяцігадовым узросце заняў маскоўскі прастол. Але ў яго быў моцны сапернік — дзядзька Юрый, родны брат бацькі Васіля. Юрый хацеў сам стаць вялікім князем маскоўскім, але Соф'я Вітаўтаўна перашкодзіла гэтаму. Юрый спалохаўся, што яна папросіць дапамогі ў свайго бацькі — ваяўнічага Вітаўта і адступіўся. Калі Вітаўт памёр, Юрый пачаў зноў дамагацца прастола. Каму быць вялікім князем, звычайна вырашаў татарскі хан. Юрый

адвёз у Арду багатыя падарункі і спадзяваўся, што пераможа Соф'ю Вітаўтаўну і яе сына, свайго пляменніка.

Соф'я паслала да хана вельмі хітрага і спрытнага баярына Усеваложскага. Той перасварыў паміж сабой хана і яго падначаленых, якія падтрымлівалі князя Юрыя, і дамогся, каб прастол застаўся сыну Соф'і — Васілю.

Усеваложскі спадзяваўся, што малады князь ажэніцца з яго дачкою. Але Соф'я Вітаўтаўна абрала сыну іншую нявесту. У Маскве жыў князь Уладзімір Храбры, герой Кулікоўскай бітвы. Ён меў за жонку дачку вялікага князя Альгерда — Алену. Соф'я сама была замужам далёка ад роднае стараны, і добра ведала, што гэта такое. Таму яна ажаніла сына з дачкой Уладзіміра Храбрага і Алены.

Гэта пакрыўдзіла Усеваложскага. Ён пакінуў Маскву, княжацкі двор і паступіў на службу да Юрыя. Юрый не пакінуў намеру завалодаць прастолам. Супраць былі яго сыны — Шчамяка і Касы. Яны хацелі памірыць бацьку з Васілём і Соф'яй Вітаўтаўнай. Шчамяка і Касы прыехалі на вяселле вялікага князя. На Касым быў пояс, аздоблены каштоўнымі камянямі. Некалі ён належаў жонцы Дзмітрыя Данскога, ды потым яго хітра падмянілі і ён знік. Соф'я ведала гэтую гісторыю. Калі б пояс не ўкралі, ён бы дастаўся ёй у спадчыну. Убачыўшы пояс у Касога, Соф'я не стрымала свайго гневу і сарвала яго. Касы і Шчамяка абурыліся — пояс яны не ўкралі, а купілі і не ведалі, каму ён належаў раней.

Усе гэтыя падзеі выкарыстаў Усеваложскі. Пачалася міжусобная вайна. Князь Юрый і яго сыны перамаглі, выгналі Соф'ю і Васіля з Масквы, захапілі велікакняжацкі прастол. Але князь Юрый раптоўна памёр, а Касы трапіў у палон, і яго асляпілі. Тады Шчамяка падсцярог

Васіля, калі той паехаў маліцца, і, помсцячы за брата, тут жа ў царкве асляпіў яго. З тае пары Васіля пачалі называць Цёмным.

Міжусобная вайна працягвалася. І здарылася так, што баяры і народ падтрымалі сляпога князя і Соф'ю Вітаўтаўну. Сабраўшы моцнае войска, Васіль Цёмны разграміў Шчамяку і вярнуўся ў Маскву. Маладая дзяржава была выратавана ад распаду.

І лёс Соф'і, і лёс Васіля Цёмнага мала звязаны з іх радзімай — беларускай зямлёй. Але нам, іх нашчадкам, трэба памятаць пра сваіх продкаў, ведаць іх след у гісторыі, дзе б ён ні застаўся...

# Свідрыгайла

*Вялікі князь Вялікага княства з 1430 г. па 1432 г. Нарадзіўся ў 1370 г. Памёр у 1452 г.*



Пасля смерці Вітаўта ўнутранае становішча краіны пагаршалася з году ў год. Частка насельніцтва Вялікага княства была праваслаўная, а другая — каталіцкая. Каталікаў падтрымлівала Польшча. На соймах-з'ездах шляхты прымаліся законы супраць праваслаўных. Беларускую мову, якая лічылася дзяржаўнай, спрабавалі памяняць на польскую. Праваслаўныя памяталі свае старыя прывілеі і ўзняліся на барацьбу. Яны сабраліся на з'езд і абвясцілі вялікім князем Свідрыгайлу. Усе ведалі, што ён падтрымліваў праваслаўе. Да таго ж беларуская шляхта паважала гэтага князя-вандроўніка і ваяку.

Калісьці яшчэ Вітаўт выгнаў яго з Віцебска, дзе ён княжыў. Свідрыгайла ўцёк у Маскву. У Маскве высока ацанілі яго воінскія здольнасці. Князю далі ва ўладанне горад Уладзімір. Але ён не ўседзеў доўга на адным месцы і збег з Масковіі аж да немцаў, бо хацеў адпомсціць Вітаўту. У адным з баёў ён трапіў да Вітаўта ў палон і аказаўся ў падзямеллі віленскай турмы.

У ноч перад Вялікаднем два праваслаўныя князі Фёдар Астрожскі і Аляксандр Нос патаемна вызвалілі Свідрыгайлу, і ён зноў набыў волю.

Калі Свідрыгайлу абралі вялікім князем, увесь народ прысягнуў яму на вернасць. Атрымаўшы ўладу, новы князь пачаў раздаваць землі і пасады толькі праваслаўным. Але на той час у Вялікім княстве было ўжо шмат каталікаў. Цяпер пакрыўдзіліся яны і звярнуліся да Ягайлы, які заставаўся польскім каралём, але лічыў, што пасля смерці Вітаўта мае права патрабаваць, каб яму падпарадкоўваўся і вялікі князь Вялікага княства.

Ягайла адправіў да Свідрыгайлы пасла, які патрабаваў, каб той выконваў загады караля. Свідрыгайла разлаваўся і кінуў пасла ў турму. Тады Ягайла павёў на

Вільню войскі і заняў сталіцу. Польскі каталіцкі епіскап выступіў перад народам і ад імя папы рымскага вызваліў ад клятвы на вернасць вялікаму князю тых, хто прысягаў Свідрыгайлу.

Магнаты, самыя багатыя з паноў, што паспелі стаць католікамі, абралі вялікім князем малодшага брата Вітаўта — Жыгімонта.

Свідрыгайла ўцёк з Вільні, але не спыніў барацьбы. На яго баку былі Полацк, Віцебск, Смаленск, Кіеў, усё праваслаўнае насельніцтва. Яму пачалі дапамагаць Аўстрыя і Чэхія, якія варожа ставіліся да Польшчы і хацелі хоць нечым нашкодзіць ёй.

Ягайла і Жыгімонт некалькі разоў цярпелі паражэнні ў баях супраць войскаў Свідрыгайлы. Яны зразумелі, што ім не перамагчы сілаю. Тады Жыгімонт прыняў на сойме закон, які абвясціў роўныя правы католікаў і праваслаўных. Пасля гэтага большая частка праваслаўных пакінула войска Свідрыгайлы. Выкарыстаўшы гэта, Ягайла і Жыгімонт завалодалі Полацкам і Віцебскам, а потым разграмілі і Свідрыгайлу, у якога засталося зусім мала воінаў. Сам Свідрыгайла ўцёк за мяжу, дзе неўзабаве і памёр.

Пасля перамогі Жыгімонт зноў пачаў уціск праваслаўных. Акрамя таго, каб разлічыцца з палякамі за дапамогу ў барацьбе супраць Свідрыгайлы, Жыгімонт аддаў Польшчы Валынь і Падолію — вобласці сучаснай Украіны, якія ўваходзілі ў склад Вялікага княства. Такім чынам тэрыторыя дзяржавы паменшала амаль удвая. Гэта абурыла і шляхту і магнатаў. Праваслаўныя князі Іван і Аляксандр Чартарыйскія і ваявода Доўгірд забілі Жыгімонта ў яго ж замку. Неўзабаве памёр і Ягайла.

Беларускія паны абралі князем Казіміра — сына Ягайлы і яго другой (пасля Ядвігі) жонкі — кіеўскай князёўны. Прадстаўнікі Польшчы хацелі перашкодзіць каранаванню. Яны сцвярджалі, што Вялікае княства не мае права пасля Ягайлы мець свайго вялікага князя. На іх думку, княствам павінен быў правіць намеснік караля. Але палякаў падпаілі гарэлкай, яны заснулі, а Казіміра адвялі ў касцёл, прынеслі шапку Гедзіміна, мантыю, дзяржаўны меч і скіпетр і каранавалі вялікім князем. Вялікае княства зноў мела свайго ўладара, зноў набыло незалежнасць.

# Казімір і Аляксандр — вялікія князі і каралі

**КАЗІМІР** — *вялікі князь Вялікага княства з 1440 г., з 1447 г. кароль Польшчы. Нарадзіўся ў 1427 г. Памёр у 1492 г.*

**АЛЯКСАНДР** — *вялікі князь Вялікага княства з 1492 г. З 1501 г. кароль Польшчы. Нарадзіўся ў 1461 г. Памёр у 1506 г.*



Вялікі князь Вялікага княства Казімір, з якім беларускім землям вярнулася незалежнасць, нядоўга займаў прастол толькі ў Валыні. Праз сем гадоў загінуў кароль Польшчы Уладзіслаў III Ягелон — старэйшы сын Ягайлы. Польскі сойм абраў вялікага князя Вялікага княства Казіміра і каралём Польшчы. Гэта абазначала, што і ў Польшчы і ў Вялікім княстве стаў адзін уладар. Беларускія паны не дазволілі Казіміру прыняць польскую карону. Тады палякі паабяцалі вярнуць землі Валыні і Падоліі, якія некалі гвалтам далучылі да Польшчы. На гэтым і пагадзіліся. Тытул польскага караля і вялікага князя стаў адзіны. Але зноў пачаўся ўціск праваслаўных, ім нават забаранялі будаваць цэрквы і займаць дзяржаўныя пасады.

Некаторыя з праваслаўных князёў перайшлі ў каталіцкую веру. Некаторыя нават пачалі збягаць у Маскву.

Але ўсё ж такі Казімір больш лічыў сябе вялікім князем, чым каралём Польшчы. Ён выдаў закон, якім забараніў палякам займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве, і нават каралеўскі двор трымаў не ў Кракаве ці Варшаве, а ў Вільні. Пасля яго смерці беларускія паны зноў абралі сабе вялікага князя — сына Казіміра Аляксандра.

Вялікі князь Аляксандр ажаніўся з Аленай — дачкой Івана III, вялікага князя Маскоўскага. Гэта не толькі не прымірыла, але прывяло да новых войнаў паміж Вялікім княствам і Масковіяй. Масковія ўжо пазбавілася ярма. Арда распалася на некалькі ханстваў. Адно з іх, Крымскае, было вельмі ваяўнічае. Татары пачалі нападаць на землі Вялікага княства. Але палкаводзец вялікага князя Аляксандра — Міхаіл Глінскі ўшчэнт разбіў іх пад Клецкам.

З вялікім князем Аляксандрам паўтарылася тая ж гісторыя, што і з яго бацькам — Казімірам. Палякі, зноў застаўшыся без караля, прапанавалі яму карону. І зноў шапка Гедзіміна і польская карона дасталіся аднаму ўладару.

Усе гэтыя падзеі паступова вялі Вялікае княства да заняпаду. У войнах з Масковіяй былі страчаны гарады Бранск і Чарнігаў. Маскоўскія вялікія князі пачалі прад'яўляць правы на беларускія землі. Палякі таксама стараліся скарыстаць Вялікае княства ў сваіх інтарэсах.

Калі да ўлады прыйшоў сын Аляксандра — Жыгімонт па мянушцы Стары, ён атрымаў у спадчыну ад бацькі і шапку Гедзіміна і польскую карону. Але ўтрымаць іх у руках ён не меў сілы. У Польшчы пачалася амаль што грамадзянская вайна. Тое ж самае здарылася і на беларускіх землях пасля сваркі Жыгімонта Старога з Міхаілам Глінскім. Але пра гэта ў наступным раздзеле.

# Міхаіл Глінскі, Алена Глінская і яе сын цар Іван Грозны

**ГЛІНСКІ МІХАІЛ** — *князь. Нарадзіўся ў 1470 г. Памёр у 1534 г.*

**ГЛІНСКАЯ АЛЕНА** — *вялікая княгіня маскоўская з 1526 г. Памерла ў 1538 г.*

Міхаіл Глінскі быў адным з самых цікавых людзей сваёй эпохі. Пра яго лёс можна напісаць сапраўдны прыгодніцкі раман. Глінскі паходзіў са старажытнага роду князёў Глінскіх, што валодалі невялікім горадам Глінск. Яшчэ ў юнацтве Міхаіл Глінскі разумеў, што, каб адкрыць сабе шлях да багацця, адукацыі і чыноў, трэба перайсці ў каталіцкую веру. Тым не менш ён застаўся важаком праваслаўнай шляхты, якая заўсёды падтрымлівала яго.

Глінскі выехаў у Заходнюю Еўропу і вучыўся ва універсітэтах Італіі і Германіі, атрымаў там дыплом доктара медыцыны. Ён размаўляў на некалькіх мовах. Адукацыя і таленты зрабілі яго славутым. Ён пасябраваў з германскім імператарам і магістрам ордэна рыцараў-крыжакоў і разам з апошнім ваяваў у Іспаніі. А пасля стаў самым блізкім чалавекам пры двары караля Польшчы і вялікага князя Аляксандра. Глінскі кіраваў манетным дваром, вёў найважнейшыя дзяржаўныя справы, камандаваў войскамі, у цяжкі момант выратаваў краіну — разграміў татар. Усё гэта высока ўзняло аўтарытэт бліскучага палкаводца і выдатнага дзяржаўнага дзеяча. Беларуская шляхта паважала яго. Хадзілі чуткі, што, пасля таго як памрэ кароль і вялікі князь Аляксандр, Глінскага абяруць вялікім князем і ён назаўсёды зробіць княства незалежным.

Зразумела, сыну і пераемніку Аляксандра — Жыгімонту Старому гэта не падабалася. Узніклі непаразуменні і сваркі. Жыгімонт Стары прагнаў Глінскага і пазбавіў яго ўсіх пасад. Глінскі пакрыўдзіўся і арганізаваў змову. Яго мэтай было адлучыць Вялікае княства ад Польшчы. Дапамогі ён шукаў у вялікага князя маскоўскага Васіля III. Той абяцаў падтрымку. Глінскі сабраў атрад войска беларускай праваслаўнай шляхты, захапіў

Гродна, Навагрудак і расправіўся са сваімі ворагамі. У Бабруйску войска Глінскага злучылася з дваццацітысячным атрадам, што выслаў Васіль III. Глінскі асадзіў Менск і Оршу, але не змог узяць іх і адступіў. Іншыя гарады таксама не падтрымалі Глінскага. Паўстанцам і Глінскаму давялося ўцякаць у Маскву. Сярод родзічаў, якіх ён забраў з сабою, была і яго малалетняя пляменніца — Алена.

У Масковіі Глінскі атрымаў ва ўладанне гарады Малаяраславец і Бораўск. Тым не менш яму хацелася стаць самаўладным князем. Ён разумеў, што адваяваць Вялікае княства ў яго не хопіць сілы, і прапанаваў вялікаму князю Маскоўскаму Васілю III адбіць Смаленск. Васіль III даўно марыў пра гэта. Глінскі выкарыстаў свае старыя сувязі, і абаронцы Смаленска згадзіліся перайсці на яго бок. Пачалася яшчэ адна вайна паміж Вялікім княствам і Польшчай, з аднаго боку, і Масковіяй, з другога. Рускія войскі на чале з Міхаілам Глінскім у першыя ж дні захапілі Смаленск.

Глінскі спадзяваўся, што Васіль III зробіць Смаленск сталіцай княства, а князем — Глінскага. Але рускі ўладар не хацеў драбіць свае землі. Калі Глінскі зразумеў, што яму не быць самаўладным князем, ён вырашыў вярнуцца ў Вялікае княства. Але яго схапілі і кінулі ў турму. Васіль III збіраўся пакараць смерцю ўцекача. Тады Глінскі абвясціў, што пераходзіць з каталіцтва ў праваслаўе. Маскоўскі мітрапаліт заступіўся за яго і выратаваў яму жыццё. Германскі імператар, даведаўшыся, што сябра яго апынуўся ў турме, пачаў прасіць маскоўскага вялікага князя вызваліць Глінскага. Ён меў намер забраць яго да сябе ў Германію. Васіль III не згадзіўся. Ён быў вельмі пакрыўджаны за здраду, і ніхто, ні мітрапаліт, ні пасол германскага імператара, не

змаглі пераканаць вялікага князя маскоўскага. Да таго часу пляменніца Глінскага Алена вырасла і стала прыгажуняй. Яна звярнулася да суровага і жорсткага ўладара Масковіі з просьбай пашкадаваць яе дзядзьку. *Васіль III захацеў ажаніцца з Аленай. Ён ужо быў жанаты*, але запатрабаваў ад мітрапаліта, каб той дазволіў яму развод. Прыдворныя былі супраць — яны не хацелі, каб да ўлады прыйшла іншаземка. Па загаду Васіля III яго жонку пастрыглі ў манашкі. Па законах праваслаўнай рэлігіі той, у каго жонка пайшла ў манастыр, не меў права жаніцца яшчэ раз. Некаторыя прыдворныя адкрыта сказалі пра гэта вялікаму князю. Васіль адправіў іх у ссылку. Тады хітры і спрытны мітрапаліт знайшоў нейкія біблейскія тэксты, паводле якіх можна было апраўдаць учынак князя, і ажаніў яго з Аленаю Глінскаю. Зразумела, што і Глінскага выпусцілі з турмы. Ён стаў адным з самых прыбліжаных баяраў Васіля III, вадзіў рускія войскі на Казань супраць татараў і трымаў у сваіх руках усе дзяржаўныя справы Масковіі.

Неўзабаве ў вялікай княгіні Алены нарадзіўся сын Іван — наследнік маскоўскага прастола.

Калі Васіль III памёр, яго сыну споўнілася ўсяго тры гады. Улада перайшла да вялікай княгіні Алены. Міхаіл Глінскі вырашыў, што цяпер ён будзе рабіць усё па сваім жаданні. Але пляменніца не дазволіла дзядзьку гаспадарыць каля прастола. Міхаіл Глінскі абурыўся, княгіня Алена *загадала зноў кінуць яго ў турму*. На гэты раз ніхто не вызваліў яго, і ён памёр у падзямеллі. Алена пачала правіць, не жадаючы раіцца нават з самымі знатнымі баярамі. За гэта яны атруцілі яе.

Малы князь Іван выцерпеў ад баяр шмат зла і здзекаў. Асабліва нахабна вёў сябе баярын Андрэй Шуйскі, які фактычна і правіў дзяржавай. Князь Іван быў разумны,

але вельмі запальчывы. Ён навучыўся ўтойваць свае намеры і думкі. Іван разумеў, што баяры мацней за яго, але ж ён быў вялікім князем і яго слова мела вялізную сілу. Аднойчы Іван нечакана загадаў сваім слугам забіць Андрэя Шуйскага. Тыя на вачах прыдворных раз'юшана кінуліся да таго, на каго паказаў уладар, і расправіліся з баярынам, які асмеліўся сапернічаць з малалетнім вялікім князем.

Каб умацаваць сваю ўладу і паслабіць сілу баярства, Іван загадаў вянчаць яго на царства і стаў такім чынам першым рускім царом. Пасля каранацыі абвясцілі, што ўладу ён атрымаў ад Бога і адказваць будзе толькі перад Богам. А калі хто з баяраў паспрабуе адабраць у цара ўладу, яго праклянуць у царкве.

Вельмі складана асэнсаваць ролю цара Івана, які ў гісторыі атрымаў мянушку Грознага. Ён пакараў смерцю многіх баяраў, нарабіў шмат зла. Але ж ён заваяваў Казань, назаўсёды пакончыў з ардою, што некалі валодала Масковіяй, пры ім склалі судзебнік — збор законаў, пры Грозным да Масковіі пачалі далучаць Сібір.

Шмат гора пацярпелі ад цара Івана Грознага беларускія землі. Ён распачаў вайну з Вялікім княствам, захапіў Полацк. Загінула шмат людзей.

Але з гісторыі не выкрасліш ні слова, ні падзеі. Звернемся да той думкі, што нам трэба ведаць пра сляды, якія пакінулі нашы продкі. Іван Грозны — нашчадак выхадцаў з беларускіх зямель Глінскіх адкрыў новую эпоху ў Масковіі — Расіі. Яго імя стала сімвалам жорсткасці і самаўладдзя. Тым не менш народ з усіх расійскіх цароў найперш памятае яго ды Пятра Першага, які таксама загубіў мноства людзей. Можа, у гэтым і ёсць нейкі патаемны сэнс чалавечай гісторыі.

# Францыск Скарына

*Беларускі першадрукар. Нарадзіўся ў 1490 г. Памёр у 1551 г.*

Францыск Скарына — наш самы славуты зямляк. Сярод вялікіх людзей нашай зямлі ён стаіць, бадай што, на першым месцы. Скарына і вучоны, і пісьменнік, і выдатны асветнік. Але самае галоўнае — ён першадрукар не толькі ў Беларусі, а наогул на ўсіх усходнеславянскіх землях.

На жаль, пра жыццё Скарыны захавалася вельмі мала звестак. Ён нарадзіўся ў сям'і купца ў старажытнай сталіцы беларускай зямлі — Полацку. У Полацку ён атрымаў першапачатковую адукацыю, вывучыў лацінскую мову. У той час гэтая мова лічылася міжнароднай мовай навукі, на ёй чыталі лекцыі ва універсітэтах усіх краін. Веданне лацінскай мовы адкрывала шлях да адукацыі. Скарына паехаў у Кракаў і паступіў вучыцца ў кракаўскі універсітэт. Ён скончыў яго з вучонай ступенню бакалаўра філасофіі. Але юнак прагнуў ведаў і праз некаторы час апынуўся ў Італіі. Закончыўшы Падуанскі універсітэт, Скарына атрымаў дыплом доктара медыцыны.

Скарына бачыў, што Еўропа больш адукаваная, чым усходнія землі і яго радзіма. У Італіі, Германіі было шмат кніг, бо іх друкавалі ў друкарнях, а не перапісвалі ад рукі. І ён вырашыў друкаваць кнігі на беларускай мове. У той час галоўнай кнігаю лічылася Біблія. Скарына паехаў у Прагу і там надрукаваў Біблію на роднай мове. А потым вярнуўся ў Вільню і заснаваў першую ў Вялікім княстве друкарню.

Скарына пражыў складанае жыццё, падрабязнасці пра якое гісторыя да нас не данесла. Вядома толькі, што ў апошнія гады ён вымушаны быў зноў паехаць у Прагу, дзе працаваў каралеўскім батанікам. У Празе, далёка ад роднага Полацка, Скарына і памёр.

Нашчадкам засталася справа Скарыны. Пасля яго кнігадрукаванне распаўсюдзілася на ўсходнеславянскіх землях, у тым ліку ў Беларусі. Паслядоўнікі беларускага друкара Пётр Мсціславец і Іван Фёдараў заснавалі друкарню і ў Маскве.

Але Скарына быў не толькі друкаром. З гравюр, змешчаных у кнігах, відаць, што ён выдатны мастак. А прадмовы, пасляслоўі, каментарыі сведчаць аб ім як адным з найцікавейшых пісьменнікаў. У адной з прадмоў Скарына выказаўся як узнёслы патрыёт сваёй зямлі: «...звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае, птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае, рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, адчуваюць віры свае, пчолы і ім падобныя бароняць вуллі свае. Гэтак жа і людзі, — дзе нарадзіліся, да таго месца і вялікую ласку маюць».

З гэтымі словамі Скарына і ўвайшоў у гісторыю нашай радзімы.

# Апошнія князі Вялікага княства

**ЖЫГІМОНТ СТАРЫ** — *вялікі князь Вялікага княства і кароль Польшчы. Нарадзіўся ў 1467 г. Памёр у 1548 г.*

**ЖЫГІМОНТ II АЎГУСТ** — *вялікі князь Вялікага княства з 1544 г., кароль Полышчы з 1548 г. Нарадзіўся ў 1520 г. Памёр у 1572 г.*

У той час, калі Міхаіл Глінскі вёў сваё прыгодніцкае жыццё ў Маскові, Вялікае княства зноў стала незалежным. Кароль польскі і адначасова вялікі князь Вялікага княства Жыгімонт Стары дазволіў беларускім панам абраць свайго сына Жыгімонта II вялікім князем. Наогул, праваслаўная беларуская шляхта шмат дамаглася ад Жыгімонта Старога. Самае галоўнае дасягненне — прыняцце Статута Вялікага княства. Гэта быў найвыдатнейшы збор законаў, якія потым выкарыстоўваліся ў многіх суседніх краінах.

Але хутка зноў паўтарылася тое, што ўжо двойчы здаралася: пасля смерці свайго караля палякі запрасілі вялікага князя Вялікага княства Жыгімонта II Аўгуста на свой прастол. Зноў дзвюма дзяржавамі кіруе адзін уладар.

Жыгімонт II Аўгуст меў за жонку сястру беларускага магната Радзівіла — прыгажуню Барбару Радзівіл. Свякроў, жонка Жыгімонта Старога, каварная італьянка каралева Бона атруціла яе. З тае пары кароль стаў усё больш прыслухоўвацца да думкі польскіх прыдворных і прытрымлівацца інтарэсаў Польшчы.

Пры Жыгімонце II Аўгусце расійскі цар Іван Грозны пачаў вайну з Вялікім княствам. Ён лічыў землі аж да Гродна сваімі на той падставе, што на іх жылі праваслаўныя, і патрабаваў, каб Вялікае княства ўвайшло ў склад Масковіі. Вайна ўспыхнула з-за Лівоніі (так называліся землі, дзе яшчэ засталіся нямецкія рыцары Лівонскага ордэна).

Спачатку войскі Івана Гразнага атрымлівалі адну перамогу за другой. У хуткім часе здаўся Полацк. Некалькі год вайны знясілілі Вялікае княства. Беларускія паны папрасілі дапамогі ў Жыгімонта II Аўгуста. На з'езд у горадзе Любліне сабраліся прадстаўнікі польскіх і

беларускіх зямель. Палякі згадзіліся дапамагчы. Але запатрабавалі, каб Польшча і Вялікае княства ўз'ядналіся ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую, што значыць Рэспубліка Народная. Мелася на ўвазе, што кіравацъ дзяржавай будзе адзін кароль Рэчы Паспалітай. Беларускія паны адмовіліся. Дэпутаты Вялікага княства пакінулі з'езд. Тады Жыгімонт II Аўгуст нанёс Вялікаму княству ўдар у спіну. Ён абвясціў закон, паводле якога землі сучаснай Украіны, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства, адышлі да Польшчы.

Узнікла пагроза, што Вялікае княства знішчаць націскам з двух бакоў — з усходу і з захаду. Беларускім дэпутатам давялося вярнуцца на сойм і пагадзіцца на аб'яднанне з Польшчай. Спрэчкі цягнуліся некалькі месяцаў. Беларускіх паноў узначальваў самы багаты і славуты магнат — Мікалай Радзівіл. Вялікае княства здолела захаваць юрыдычную і фактычную самастойнасць. Яно падпарадкоўвалася агульнаму каралю, але соймы, на якіх вырашаліся ўсе галоўныя пытанні, павінны былі праходзіць па чарзе ў Варшаве і Гродне. Вялікае княства мела сваё, асобнае войска, свае грошы, свой суд і законы, дзяржаўнай мовай засталася беларуская. Але ўсё ж афіцыйна незалежнасць была страчана, і ў роспачы Мікалай Радзівіл назваў сойм у Любліне пахаванне Вялікага княства. І гэта было так, бо вялікая і славутая дзяржава, што прасціралася ад мора да мора, як самастойная перастала існаваць. З гэтага часу Беларусь уваходзіла як частка ў феадальную дзяржаву Рэч Паспалітая, а пазней была ўключана ў склад Расійскай імперыі.

# Мялецій Сматрыцкі і Іасафат Кунцэвіч

**СМАТРЫЦКІ МЯЛЕЦІЙ** — *царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ў 1572 г. Памёр у 1630 г.*

**КУНЦЭВІЧ ІАСАФАТ** — *царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ў 1580 г. Загінуў у 1623 г.*

Імёны Сматрыцкага і Кунцэвіча яскрава паказваюць усю супярэчлівасць таго часу. У іх дзейнасці адлюстравалася барацьба католікаў і праваслаўных. Гэтая барацьба мела свае прычыны. Некалі большая частка беларускага насельніцтва ахрысцілася па праваслаўным абрадзе. Пазней многія перайшлі ў каталіцтва. У наш час і католікі і праваслаўныя імкнуцца жыць мірна. Але раней спрэчкі паміж імі прыводзілі і да жорсткіх сутыкненняў, і да войнаў. У гэтым няма нічога надзвычайнага. Так было ў многіх краінах. У Расіі праваслаўныя і раскольнікі доўгі час варожа ставіліся адзін да аднаго. У Еўропе католікі і пратэстанты неаднойчы ваявалі. Адна з такіх войнаў цягнулася аж трыццаць гадоў, у ёй удзельнічалі амаль усе краіны Еўропы. А жорсткая міжусобіца паміж пратэстантамі і католікамі ў Францыі сёння прыводзіць у жах — пасля іх бойкі па вуліцах Парыжа цяклі рэкі крыві. Стагоддзямі ваявалі хрысціяне і мусульмане.

У Вялікім княстве рэлігійныя супярэчнасці таксама даходзілі часам да варожасці і крыві. Вялікае княства ўжо ўвайшло ў Рэч Паспалітую, дзе галоўнай рэлігіяй лічылася каталіцкая. Рэч Паспалітая вяла цяжкія войны з Масковіяй — Расіяй. А праваслаўныя жыхары беларускіх зямель, якія духоўна падпарадкоўваліся маскоўскаму мітрапаліту, былі як дзяржаўныя здраднікі. З другога боку, тыя, што адракліся ад праваслаўя і сталі католікамі, выглядалі здраднікамі ў вачах праваслаўных. Узаемныя прэтэнзіі і даводзілі да сварак.

Асабліва ўскладніліся абставіны пасля ўвядзення уніі. Унія — значыць «саюз», саюз праваслаўных і католікаў. Улады Польшчы і папа рымскі хацелі, каб праваслаўныя, захаваўшы свае абрады, падпарадкоўваліся не маскоўскаму мітрапаліту, а папе рымскаму. Нека-

торыя праваслаўныя згадзіліся, некаторыя адмовіліся. Вось і прычыны для новых спрэчак.

У гэты час і жылі Мялецій Сматрыцкі і Іасафат Кунцэвіч.

Сматрыцкі нарадзіўся ў гарадку Смотрыч на Украіне (у той час землі Украіны ўваходзілі ў склад Вялікага княства). Бацька яго быў пісарам у князя Астрожскага. Астрожскі, багаты магнат, чалавек, з якім лічыліся ўсе, нават кароль, праславіўся як стойкі абаронца праваслаўя. У яго маёнтку друкар Іван Фёдараў надрукаваў славутую Астрожскую Біблію. Бацька Сматрыцкага дапамагаў рыхтаваць гэта выданне. Астрожскі заснаваў школу — нешта накшталт універсітэта. Мялецій скончыў гэтую школу. І князь, ведаючы пра яго поспехі ў навуках, даў яму магчымасць працягваць вучобу — паехаць у Вільню, дзе адкрылася акадэмія. Вучыліся ў ёй толькі каталікі, езуіты. Але там можна было атрымаць сапраўдную адукацыю.

У гэты час і ўзнікла царкоўная унія. Рэктар Віленскай акадэміі бліскучы прапаведнік Пётр Скарга падтрымліваў яе. Апякун і заступнік Сматрыцкага князь Астрожскі пачаў барацьбу супраць уніі.

Мялецій Сматрыцкі скончыў акадэмію і стаў хатнім настаўнікам дзяцей князя Саламярэцкага. Разам са сваімі вучнямі ён едзе ў Заходнюю Еўропу, разам з імі слухае лекцыі ва універсітэтах Нюрнберга, Лейпцыга, Вітэнберга. Сматрыцкі нават паспеў здаць экзамены і атрымаць дыплом доктара медыцыны. Пасля вяртання на радзіму ён становіцца настаўнікам у адной з брацкіх школ Вільні.

Брацтвамі тады называлі аб'яднанні праваслаўных, якія не паддаліся ўплыву палякаў і каталікаў. Яны заснавалі школы, дзе вучылі дзяцей не на лацінскай, а на

роднай мове. Брацтвы мелі свае друкарні, выпускалі кнігі. На Украіне іх падтрымлівалі казакі. Так запарожскае войска ўваходзіла ў адно з такіх брацтваў у горадзе Кіеве. Многія праваслаўныя магнаты давалі брацтвам грошы. У гэты час абвастрыліся адносіны паміж католікамі, уніятамі і праваслаўнымі. Праваслаўны мітрапаліт Вільні Пацей прызнаў унію. З яго дазволу ў праваслаўных пачалі адбіраць цэрквы. Дайшло да сутычак.

Мялецій Сматрыцкі ў адказ на ўсе гэтыя падзеі выдаў кнігу «Фрынас, або Плач адзінай усходняй царквы аб сваіх дзецях». Ён апісаў пакуты праваслаўных, асудзіў усіх, хто здрадзіў праваслаўнай царкве, і на высокім філасофскім і багаслоўскім узроўні даказваў правы праваслаўных.

Кніга мела вялізны поспех сярод праваслаўных. Яе перадавалі з рук у рукі, чыталі патаемна, за яе, як пісалі сучаснікі, многія былі гатовы аддаць жыццё. Аўтара называлі абаронцам веры, ён аказаўся ў першых радах барацьбітоў за праваслаўе.

Католікі і уніяты сустрэлі кнігу варожа. Польскі кароль Жыгімонт III Ваза загадаў спаліць яе, а аўтара кінуць у турму. Сматрыцкага выратавала тое, што кніжку ён падпісаў не сваім імем, а псеўданімам. Друкарню брацтва, дзе друкавалі кнігу, закрылі.

Пастрыгшыся ў манахі, Мялецій Сматрыцкі год неадступна працаваў і стварыў «Граматыку» славянскай мовы. Гэта быў сапраўдны подзвіг. Больш за пяцьсот гадоў існавалі ўсходнеславянскія дзяржавы Кіеўская Русь, Полацкае княства, Масковія—Расія, Вялікае княства; больш за пяцьсот гадоў на старaславянскай мове размаўлялі, пісалі летапісы і мастацкія творы, дзяржаўныя акты і законы, а граматыкі гэтай мовы не было. І

вось яна створана Мялеціем Сматрыцкім. Па ёй сотні гадоў будуць вучыць мову, і Ламаносаў некалі скажа: «Граматыка Сматрыцкага... — «врата» маёй вучонасці».

Так, для мноства тых вучоных і пісьменнікаў, што чыталі і пісалі славянскімі літарамі, «Граматыка» Сматрыцкага стала «вратами» ў навуку. Па яе ўзору ствараліся ўсе пазнейшыя граматыкі рускай, а таксама балгарскай моў. Аўтарытэт Сматрыцкага вырас яшчэ больш. У Кіеў прыехаў адзін з патрыярхаў усходняй праваслаўнай царквы. Ён назначыў чатырох новых праваслаўных архіепіскапаў — намеснікаў мітрапаліта. Адным з іх — архіепіскапам Полацкім, Віцебскім і Мсціслаўскім — стаў Мялецій Сматрыцкі.

Так сын простага пісара, звычайны манах дзякуючы сваім талентам дасягнуў вышэйшай царкоўнай улады. І тут яго шлях перакрываўся з шляхам другога царкоўнага дзеяча — Іасафата Кунцэвіча.

Іасафат Кунцэвіч нарадзіўся ў сям'і небагатага шаўца. Ён трапіў у езуіцкую школу і перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва. Усёй душой Кунцэвіч аддаўся барацьбе за перамогу сваіх новых уяўленняў аб веры. Поспехі ў вучобе і выдатны талент прамоўцы дазволілі яму хутка з простага званара стаць архіепіскапам Полацка. Яму ўдалося пераканаць многіх — ад простых гараджан да знатных князёў. Сам папа рымскі ведаў пра яго дзейнасць і падтрымліваў.

Сматрыцкі і Кунцэвіч сталі архіепіскапамі аднаго горада — Полацка. Гэта парадзіла варожасць паміж імі.

Аднойчы ў Віцебску, агітуючы за каталіцтва і унію, Кунцэвіч узбудзіў супраць сябе натоўп праваслаўных гараджан, і тыя, раз'ярыўшыся ад яго прамоў, забілі Кунцэвіча. Каталіцкая царква пасля гэтага абвясціла яго святым.

Сматрыцкі, спалохаўшыся, што яго абвінавацяць у падбухторванні да забойства саперніка, з'ехаў у Кіеў, а потым — у Канстанцінопаль. Пасля вяртання ён пасварыўся ў Кіеве з праваслаўнымі манахамі і нечакана для ўсіх адрокся ад праваслаўя і стаў уніятам. Гэта абурыла ўсіх, хто шанаваў яго як барацьбіта з каталікамі і уніятамі. Казакі нават абяцалі, што заб'юць здрадніка. І Мялецій хаваўся ў манастырах. Пражыў пасля гэтых падзей ён нядоўга, але паспеў напісаць кнігу, у якой услаўляў унію.

Жыццё гэтых двух царкоўных дзеячаў адлюстравала тую складаную барацьбу, якая ахапіла Вялікае княства. Раней адны вучоныя ўслаўлялі Сматрыцкага і ганьбілі Кунцэвіча, другія наадварот. Цяпер многія пачынаюць разумець, што так рабіць нельга. І Сматрыцкі, і Кунцэвіч — сыны свайго часу. І адзін, і другі пакінулі глыбокі след у духоўнай культуры. Кожнаму з іх належыць дастойнае месца ў гісторыі Беларусі.

# Сімяон Полацкі

*Пісьменнік. Нарадзіўся ў 1629 г. Памёр у 1680 г.*

На старонках гэтай кнігі мы ўжо не раз сутыкнуліся з тым, што выхадцы з беларускіх зямель мелі ўплыў на суседнія дзяржавы, асабліва Масковію, Расію. Успомнім значэнне для Кіеўскай Русі законаў, што ўпершыню запісаў сын Рагнеды Полацкай Яраслаў Мудры, успомнім творы Кірылы Тураўскага, дзейнасць Ефрасінні Полацкай. Адукацыю і культуру неслі на ўсход жонкі вялікіх князёў маскоўскіх Соф'я Вітаўтаўна і Алена Глінская. Францыск Скарына даў народам усходнеславянскіх зямель друкаваную кнігу.

Нельга забыць і Сімяона Полацкага, які адыграў вельмі важную ролю ў гісторыі Масковіі—Расіі.

Сімяон Полацкі нарадзіўся ў Полацку, у сям'і купца. Доўгі час ён вучыўся ў Кіеве, а потым у Віленскай акадэміі. Яго лічылі адным з самых адукаваных людзей таго часу. Сімяон Полацкі пастрыгся ў манахі і доўгі час працаваў у брацкай школе ў Полацку. Яго ведалі як славутага настаўніка, выкладчыка. Калі пачалася чарговая так званая руска-польская вайна, войскі расійскага цара Аляксея Міхайлавіча захапілі Полацк. Сімяон быў праваслаўны, і ён вітаў гэта. Манах, паэт і настаўнік сустрэўся з царом. Цар запрасіў яго ў Маскву, бо спадзяваўся, што вучоны дапаможа наладзіць адукацыю ў Расіі.

Апынуўшыся ў Маскве, Сімяон Полацкі па загадзе цара ўзначаліў школу, у якой вучыліся будучыя дыпламаты.

У царкоўных справах Сімяон падтрымаў патрыярха Нікана. Калі ў Маскве склікалі вялікі сабор, на якім вырашаліся галоўныя пытанні веры, ён быў там перакладчыкам, бо добра ведаў і грэчаскую і лацінскую мовы. Неўзабаве цар даручыў Сімяону Полацкаму выхаванне сваіх дзяцей. Дзякуючы адукацыі і шырокаму

кругагляду наследнікі цара заклалі асновы тых перабудоў і перамен, якія завяршыў Пётр I. Так просты полацкі манах паўплываў на лёс вялікай дзяржавы.

Але Сімяон Полацкі вядомы ў гісторыі не толькі як выхавацель царскіх дзяцей. Ён стаў адным з пачынальнікаў рускай паэзіі. Сімяон быў вядомым паэтам яшчэ ў Полацку. Ён пісаў на лацінскай, польскай, беларускай мовах. У Маскве паэт напісаў па-руску некалькі п'ес для прыдворнага тэатра. Па сутнасці, гэта першыя драматургічныя творы ў рускай літаратуры. Але найбольш праславіўся Сімяон Полацкі як паэт. Зборнікі яго вершаў «Рыфмалагіён, або Вершаслоў» і «Вертаград многакаляровы» паклалі пачатак новай, пасля старажытнага перыяду, рускай літаратуры. Падмурак, што заклаў беларус Сімяон Полацкі, умацуюць Ламаносаў і Дзяржавін, а цудоўны палац на гэтым падмурку збудуе геніяльны Пушкін.

# Славутыя магнаты

**РАДЗІВІЛ ЮРЫЙ** — *ваявода і гетман. Нарадзіўся ў 1480 г. Памёр у 1541 г.*

**РАДЗІВІЛ БАРБАРА** — *жонка караля Жыгімонта II Аўгуста. Нарадзілася ў 1520 г. Памерла ў 1551 г.*

**РАДЗІВІЛ ЯНУШ** — *ваявода і гетман. Нарадзіўся ў 1612 г. Памёр у 1655 г.*

**АСТРОЖСКІ КАНСТАНЦІН** — *ваявода і гетман. Нарадзіўся ў 1460 г. Памёр у 1530 г.*

**АГІНСКІ МІХАЛ** — *кампазітар. Нарадзіўся ў 1765 г. Памёр у 1833 г.*

**САПЕГА ЛЕЎ** — *канцлер Вялікага княства. Нарадзіўся ў 1557 г. Памёр у 1633 г.*

Слова «магнат» прыйшло да нас з лацінскай мовы і абазначае багаты, знатны чалавек. Так у Вялікім княстве называлі паноў, што валодалі вялізнымі маёнткамі, мелі шмат грошай, уплывалі на дзяржаўныя справы. Асабліва важную ролю ў гісторыі беларускіх зямель адыгралі сем'і Радзівілаў, Астрожскіх, Агінскіх і Сапегаў.

Радзівілы лічыліся першымі сярод беларускіх паноў. Казалі, што яны багацейшыя і мацнейшыя за польскіх каралёў. Радзівілам належалі многія гарады і вёскі. Яны мелі моцныя крэпасці Слуцк, Любчу, Мір, Кейданы і Нясвіж. Нясвіж быў галоўнай іх рэзідэнцыяй. Радзівілы мелі тытул князёў Рымскай імперыі, яны, як і каралі, называлі сваіх дзяцей па бацьках, дадавалі да імёнаў парадкавы нумар.

Найбольш праславіўся воінскімі перамогамі Юрый Радзівіл, па мянушцы Геркулес, ваявода і гетман. У бітвах ён разграміў войскі Масковіі і крымскіх татар. Яго дачка Барбара Радзівіл стала жонкай вялікага князя Вялікага княства Жыгімонта II Аўгуста.

Іх далёкія нашчадкі Януш Радзівіл і яго сын Багуслаў ставілі за мэту дамагчыся незалежнасці ад Польшчы. Яны заключылі саюз са Швецыяй, але спроба стварыць дзяржаву не ўдалася.

Князі Астрожскія найбольшыя ўладанні мелі на Украіне. Украіна ўваходзіла ў склад Вялікага княства, і Астрожскія адыгралі важную ролю ў гісторыі беларускай дзяржавы.

Род Астрожскіх некаторыя даследчыкі вядуць ад пінскіх і тураўскіх князёў старажытнага часу. Здаўна яны трымаліся праваслаўя. Адзін з іх продкаў, Фёдар Астрожскі, дапамог Свідрыгайлу ўцячы з турмы, куды яго кінуў князь Вітаўт. Фёдар Астрожскі быў добрым палкаводцам, адваяваў у палякаў Падолію і Валынь. Ён

стаў адным з багацейшых людзей свайго часу, але нечакана пастрыгся ў манахі. Пасля смерці яго далучылі да святых.

Яшчэ больш славуты быў Канстанцін Іванавіч Астрожскі, ваявода і гетман. Ён атрымаў перамогу ў бітвах. У час вайны з Масковіяй Астрожскі трапіў у палон. Яго вывезлі ў Волагду і запатрабавалі ўзначаліць рускія войскі, паабяцаўшы зрабіць царскім баярынам. Але Астрожскі ўцёк з палону і ў бітве пад Оршай ушчэнт разбіў маскавітаў.

Канстанцін Іванавіч ажаніўся з Аляксандрай, дачкою слуцкага князя, і меў вялікія зямельныя ўладанні на Беларусі. Ён дбайна абараняў праваслаўе. Польскі кароль не мог пярэчыць свайму палкаводцу, і пры Астрожскім у Вялікім княстве была пабудавана шмат цэркваў.

Сын Канстанціна Астрожскага і слуцкай князёўны Аляксандры — Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі вядомы як выдатны асветнік. Ён марыў стварыць універсітэт для праваслаўных, але змог адкрыць толькі школу. З гэтай школы выйшла шмат паэтаў і вучоных, у тым ліку і царкоўны дзеяч, аўтар першай славянскай «Граматыкі» Мялецій Смятрыцкі. Астрожскаму належала 25 гарадоў, больш 500 вёсак. Ён будаваў школы, цэрквы, дапамагаў брацтвам. У яго маёнтку працаваў Іван Фёдараў, які першы ў Масковіі выдаў друкаваную кнігу. Не маючы магчымасці прадаўжаць сваю справу ў Маскве, Іван Фёдараў прыехаў да князя Астрожскага і выдаў у яго Астрожскую Біблію.

Агінскія — старадаўні магнацкі род, што вёў сваю радаслоўную ад князя Рурыка, якога славяне некалі запрасілі да сябе княжыць. Многія прадстаўнікі роду Агінскіх займалі важныя дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве. Галоўны маёнтак Агінскіх знаходзіўся ў горадзе Слоніме. Тут яны стварылі оперны тэатр, які стаў пасля асновай для польскай оперы. Адзін з Агінскіх — Міхал Клеафас — быў вядомым кампазітарам. Ён пры-

маў удзел у паўстанні супраць Расіі і быў вымушаны эмігрыраваць за мяжу. Міхал Клеафас доўгі час пражыў у Венецыі і Парыжы. Але душа яго імкнулася да родных мясцін. Ён напісаў славуты паланэз «Развітанне з Радзімай». Паланэз увайшоў у скарбонку сусветна вядомых музычных твораў. Пазней Міхал вярнуўся на радзіму і дамагаўся ад расійскага цара стварэння на беларускіх землях незалежнай дзяржавы.

Сапегі лічыліся другімі па багацці і знатнасці родам пасля Радзівілаў. Яны паходзілі са смаленскіх баяр, валодалі многімі гарадамі і вёскамі, мелі княжацкі тытул. Адзін з іх, Леў Сапега, адыграў вельмі важную ролю ў гісторыі Вялікага княства. Леў Сапега выхоўваўся ў школе, якую заснаваў у Нясвіжы адзін з Радзівілаў. Пасля ён вучыўся ў Лейпцыгскім універсітэце, у якім вывучаў гісторыю і права. Пасля вяртання на радзіму Сапега даслужыўся да пасады дзяржаўнага канцлера. Вялікае княства ўжо ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай. Польскія паны імкнуліся захапіць беларускія землі. Леў Сапега, выдатны юрыст і дзяржаўны дзеяч, выпрацаваў новы збор законаў — Статут 1588 года, які забараняў іншаземцам валодаць у Вялікім княстве зямлёй, захоўваў правы мясцовай шляхты. Польскі сейм не згадзіўся прыняць гэты Статут. Тады Леў Сапега скарыстаў зручны момант, калі кароль апынуўся ў цяжкім становішчы, і дамогся, каб Статут быў зацверджаны каралеўскай пячаткаю. Статут 1588 года выратаваў Вялікае княства, дзякуючы яму ўдалося захаваць незалежнасць.

Застанецца ў гісторыі і імя Казіміра Яна Сапегі. Ён згуртаваў вакол сябе вялікія вайсковыя сілы і меў намер стварыць на землях Беларусі незалежную дзяржаву. Але іншыя магнаты не маглі прымірыцца з тым, што Казімір Ян стане на чале новай дзяржавы. Яны сабралі ваяўнічую шляхту і ў баі пад Алькенікамі разграмілі войскі Сапегі.

# Песняры беларускай зямлі

**ЯНКА КУПАЛА** — *беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1882. Памёр у 1942 г.*

**ЯКУБ КОЛАС** — *беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1882 г. Памёр у 1956 г.*

Доўгі час Беларусь не мела сваёй дзяржаўнасці. Але народ між тым жыў, жыла і мова. Жыла ягоная душа. І душа гэта не магла не гаварыць. Беларуская зямля нарадзіла двух песняроў Янку Купалу і Якуба Коласа, што ўвасобілі гэтую душу ў словы і данеслі яе ўсяму свету.

Янка Купала нарадзіўся ў фальварку Вязынка ў сям'і збяднелага шляхціца. Вучыўся ў народным вучылішчы, потым у Пецярбургу і Маскве, працаваў у Вільні ў беларускай газеце «Наша ніва». Яго вершы ўскалыхнулі народ, што ад стомы і цяжару жыцця апусціў галаву. Горда і сцвярджальна прагучалі словы:

*— А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромістай такой грамадзе?*
*— Беларусы...*
*— А чаго ж, чаго захацелася ім,*
*Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца!*

Так! Не загіне народ, які мае гэтакага паэта-песняра!

Купала напісаў шмат вершаў і паэм. Многія вершы сталі песнямі. З п'есы Купалы «Паўлінка» пачаўся беларускі нацыянальны тэатр. Сам Купала стаў увасабленнем паэзіі, сімвалам паэта-песняра. І калі ў Злучаных Штатах Амерыкі вырашылі паставіць помнікі вялікім славянскім паэтам, то разам з помнікам Пушкіну і Тарасу Шаўчэнку паставілі і помнік Янку Купалу.

Не менш славуты і знакаміты другі наш пясняр — Якуб Колас. Ён нарадзіўся ў засценку Акінчыцы на Міншчыне, таксама ў сям'і беднага шляхціца. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, працаваў настаўнікам на Палессі.

Галоўны твор Коласа — паэма «Новая зямля». Гэта сапраўды народны твор. У ім думкі, надзеі і спадзяванні, усе праявы чалавечага жыцця, увесь побыт селяніна Колас узнёс да высокай паэзіі і філасофіі. Хто не ведае на памяць гэтых радкоў:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю.*

А праз некалькі старонак:

*Дзень быў святы. Яшчэ ад рання*
*Блінцы пякліся на сняданне...*

Колас, як ніхто іншы, кранае душу чалавека, душу беларуса:

*Не сядзіцца ў хаце*
*Хлопчыку малому:*
*Кліча яго рэчка,*
*Цягнуць санкі з дому...*
*— Мамачка-галубка! —*
*Просіць сын так міла, —*
*Можа б ты на рэчку*
*Пагуляць пусціла?*

Гэтыя простыя словы мы носім у сабе з дзіцячых гадоў. А ўспомніце:

*У бязмежным небе*
*Роўненькім шнурочкам*
*Жураўлі на вырай*
*Мкнуцца над лясочкам.*

*Меншыцца шнурочак,*
*У паднеб'і тае,*
*Вось ледзь-ледзь чарнее,*
*Міг — і прападае.*
*І стаіш ты, смутны,*
*Доўга пазіраеш,*
*Як бы нешта страціў,*
*А што — сам не знаеш.*
*Так у час расстання*
*З тым, хто сэрцу любы,*
*Адчуваеш смутак*
*Цяжкай страты-згубы*
*І глядзіш маўкліва*
*На дарожку тую,*
*Што нясе ўдалечу*
*Душу дарагую.*

Куды б ні закінула жыццё беларуса, як бы ні склаўся яго лёс, гэтыя радкі сагрэюць і падтрымаюць у цяжкую хвіліну. Іх і перад смерцю ўспомніш.

# Заключэнне

Вось і апошняя старонка кнігі, у якой апавядаецца пра людзей, чые імёны ўвайшлі ў гісторыю беларускай зямлі. Аўтар наўмысна не чапаў нашага часу, 20 стагоддзя. Хто-небудзь уключыў бы ў «Беларускі Плутарх» гэтага перыяду імя Машэрава ці каго са славутых партызан, а хто — імя Вольгі Корбут, ці імёны «Песняроў», ці тых, хто загінуў у ліхія часы сталіншчыны. Але пройдуць часы, і погляд на многае зменіцца. Сапраўднае значэнне імя ў гісторыі высветліцца толькі з цягам часу. Можа гадоў праз сто хто-небудзь напіша кнігу, у якой збярэ імёны беларусаў, след якіх у гісторыі 20 ды і 21 стагоддзя застанецца трывала, назаўсёды. Сярод гэтых імёнаў, можа, будуць і імёны тых, хто ў дзяцінстве трымаў у руках першую частку «Беларускага Плутарха». Аўтар спадзяецца на гэта, менавіта дзеля гэтага ён і працаваў.

# Змест

**Бутрамееў, У.** Вялікія і славутыя людзі зямлі беларускай: Для мал.
**Б 93** і сяр. шк. ўзросту/ У.Бутрамееў; Маст. М.Рыжы. — 4-е выд. — Мн.: БелЭН, 2005. — 128 с.: іл.

ISBN 985-11-0327-6.

Кніга У.Бутрамеева знаёміць дзяцей з выдатнымі гістарычнымі асобамі беларускай зямлі. У займальнай папулярнай форме выкладае старажытную гісторыю Беларусі, вучыць любіць свой край. Будзе цікавай для ўсіх, хто жадае ведаць гісторыю Беларусі. Кніга *багата ілюстравана.*

**УДК 947.6: 087.5**
**ББК 63.3 (4 Беи)**

Навукова-папулярнае выданне

**Уладзімір Бутрамееў**

ВЯЛІКІЯ І СЛАВУТЫЯ ЛЮДЗІ
ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту
4-е выданне

Адказная за выданне *Л.У.Языковіч*

Мастацкі рэдактар *В.Г.Пайлавец*

Тэхнічны рэдактар *Н.М.Шэвель*

Карэктар *В.М.Чудакова*

Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання:
*С.А.Макаёнак, А.Л.Шалканаўцава*

Падпісана да друку 05.07.2005 г. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 13,44. Ум. фарб.-адб. 54,76.
Ул.-выд. арк. 13,38. Тыраж 2100 экз. Заказ 88.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ №02330/0056830 ад 02.03.2004 г. Рэспубліка Беларусь. 220072, Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Мінская фабрыка каляровага друку». Рэспубліка Беларусь.
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

